

# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

19 МАЯ 2000г. № 20/4052 КОШТ 80 РУБ.





# Спатկаліся музы ў Нясвіжы...



...А было гэта роўна тыдзень таму, калі сюды, на выспу старажытнай беларускай гісторыі, ахінутую рамантыкай даўніны і свежасцю новага непаўторнага мая, прыйшло чаканае свята. Чаканае — таму што без фестывалю "Музы Нясвіжа" ўжо не ўяўляюць сабе вясну ні месцічы, ні іх заўсёдныя госці.

Пяць гадоў упрыгожваюць наша жыццё спатканні з "Музамі Нясвіжа". Юбілей? Пагадзіцеся, гэткае слова зусім не стасуецца з трапяткой радасцю жаданых сустрэч, непасрэднасцю творчага натхнення, загадкай вечнай маладосці таленту, духам абнаўлення ў мастацтве. Не будзем казаць "юбілей". Давайце казаць пра цудоўнае свята, якое зноў адбылося ў Нясвіжы. Адбылося дзякуючы шчырым руплiўцам, людзям з тонкай душой і мудрым розумам — усім, хто працуе ў вялікім калектыве Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі на чале з маэстра М. Фінбергам, хто прымае фестываль на зямлі Нясвіжскай, у тым ліку раённым уладам на чале з Л. Крупцом, Мінскаму аблвыканкаму і першаму намесніку яго старшыні У. Дражыну; дзякуючы і Міністэрству культуры. А людзі мастацтва і навукі, якія штогод спрыяюць абнаўленню фестывальных праграм!..

Уражанняў ад сёлетняга спаткання з "Музамі Нясвіжа" багата. Угледзьцеся ў фотаздымкі: вось — прафесар Віктар РОЎДА, які тройчы сам выклікаў на "біс!" хор сваіх студэнтаў; вось — увасобленая мелодыя для скрыпкі; вось — кулуарная размова мастацкага кіраўніка фестывалю Міхала ФІНБЕРГА з кампазітарам Аляксандрам ЛІТВІНОЎСКІМ, чый новы твор для камернага аркестра годна і з поспехам прагучаў у праграме адроджанай беларускай рамантычнай музыкі...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*



## БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на "ЛіМ" на другое паўгоддзе 2000 года. Аформіць падпіску можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **400** рублёў, на квартал — **1 200** рублёў і на паўгоддзе — **2 400** рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **1 250** рублёў, на квартал — **3 750** рублёў і на паўгоддзе — **7 500** рублёў.*

**Наш індэкс — 63856.**



# КОЛА ДЗЁН

***З лёгкай рукі незабыўнага Уладзіміра Караткевіча стала ледзь не абыходкавай прытча аб тым, як Бог ласкава адарыў беларусаў шчодрай і прыгожай зямелькай. А дзеля таго, каб яны не надта ганарыліся і задзіраліся, паслаў ім не лепшае начальства. Аднак выдае на тое, што Бог канчаткова адвярнуўся ад Беларусі і беларусаў. Гаворыць за тое апошнія прыродныя катаклізмы, асабліва — сёлетняй вясны і найперш пачатку траўня. Незвычайная сухмень (вільготнасць глебы практычна роўная нулю!), моцныя замаразкі — да мінус 4—9, а сям-там нават да мінус 12—14 градусаў! — загубілі тысячы і тысячы гектараў пасеваў, садоў і ягаднікаў. А ў дадатак многія мясціны на Беларусі куродымяць — сотні, нават тысячы гектараў асушаных балот і лясоў ахоплены пажарамі, якім не ўсюды ўдаецца даць рады. Становішча ў многіх раёнах проста трагічнае. Многія палеткі трэба перасяваць і засяваць нанова, а гэта — непрадугледжаныя выдаткі на тэхніку, паліва, насенне, угнаенне. Жывёла, не паспеўшы ад'есціся пасля галаднаватай зімы, зноў галадае — трава ўвачавідкі зжухла, зжаўцела. Пацярпелі не толькі грамадскія, як кажуць, палеткі, але і прысядзібныя, а таксама дачныя соткі. Людзі ў засмучэнні. Вялікая агульная бяда прыглушыла, адсунула трошкі ўбок іншыя клопаты і турботы…***

## ЦЭНЫ ТЫДНЯ

З панядзелка ўдвая падаражэў праезд на сталічным транспарце. Не на 10, не на 20 працэнтаў, як раней, а адразу — удвая! Само сабою, гэта тут жа, у першы дзень, адчулі ўсе мінчукі — ад старога да малога. Дзве паездкі, туды і назад — і сотні, лічы, няма... А ў сераду тыя ж самыя мінчукі былі ашаломлены і новымі цэнамі на хлеб і батоны. І было ад чаго ашаламіцца: падскочылі яны таксама ледзь не ўдвая... Ну, а ў астатнім? А ў астатнім пакуль што — "все хорошо, все хорошо"...

## НАПАМІН ТЫДНЯ

У панядзелак у Беларусі адзначаўся Дзень сям'і. Аднак жа свята сталася сумным. Яно высвеціла невясёлыя факты і лічбы. З сям'ёю ў Беларусі справы дрэнныя. З 1994 года ў краіне ідзе працэс дэпапуляцыі. Летась у нас нарадзілася толькі 93 тысячы дзяцей — на 73 тысячы менш, чым у 1985 годзе. 54 працэнты так званых поўных сем'яў маюць толькі адно дзіця. Затое вырас працэнт нараджэння дзяцей у незамужніх жанчын: з 7,5 працэнта ў 1990 годзе да 18 працэнтаў у 1999-м. Ад 10 да 20 працэнтаў нашых сем'яў не могуць мець дзяцей па прычыне захворванняў мужчын ці жанчын. Адбываецца рост гінекалагічнай паталогіі ў жанчын і яе амаладжэнне. Калі ў 1995 годзе было зроблена 81 тысяча гінекалагічных аперацый, дык летась — ужо 102 тысячы. На кожную жанчыну ў рэпрадуктыўным узросце цяпер прыпадае ўсяго толькі 1,023 родаў. Выклікае трывогу і стан здароўя цяжарных жанчын. У дадатак да гэтага адбываецца рост агульнага каэфіцыенту смяротнасці і старэнне насельніцтва краіны. У выніку ўжо сёлета, па ўсіх паказчыках, колькасць насельніцтва краіны панізіцца як і пасля вайны, ніжэй 10 мільёнаў. Вось пра што нагадала свята — Дзень сям'і...

## УЗГАДНЕННЕ ТЫДНЯ

У Падмаскоўі адбылося трэцяе пасяджэнне Міжбанкаўскага валютнага савета Беларусі і Расіі. Яго ўдзельнікі ўзгаднілі дакумент пад назваю: "Аб увядзенні адзінай грашовай адзінкі і стварэнні адзінага эмісійнага цэнтра ў Саюзнай дзяржаве". Дакумент, само сабою, не канчатковы, яго павінны яшчэ разглядаць урады РФ і РБ, аднак жа і ён наводзіць на сумны роздум. Фармулёўкі ў ім адназначныя: адзіная грашовая адзінка і адзіны эмісійны цэнтр. Гэтак жа адназначна і тое, што адзінка гэтая — расійскі рубель, а эмісійны цэнтр — Масква. А ў такім выпадку вельмі ж сумнеўныя сцвярджэнні аб захаванні незалежнасці Беларусі...

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

У Беларусі пабываў прэм'ер-міністр Украіны Віктар Юшчанка. Разам з ім прыбыла досыць прадстаўнічая дэлегацыя. Адбыліся перамовы на самых розных узроўнях, што стане, будзем спадзявацца, пачаткам новага этапу беларуска-ўкраінскага дыялога. Але вось які акцэнт гэтага візіту. В. Юшчанка толькі што пераступіў сімвалічную мяжу "100 дзён" на пасадзе прэм'ер-міністра, азнаменаваўшы іх стабілізацыяй нацыянальнай валюты. "Пані грыўна" — любоўна называе ён сваё "дзіця". А калі нешта падобнае зробіць і скажа наш прэм'ер-міністр?

## РАЗМАХ ТЫДНЯ

15 мая адбылося пасяджэнне выканкама Нацыянальнага алімпійскага камітэта. На ім было паведамлена, што на Алімпіядзе ў Сіднеі рыхтуюцца выступіць больш чым 160 нашых спартсменаў па 21 відзе спорту — лёгкаатлеты, стралкі, плыўцы, гімнасты, барцы, весляры... Такі размах ажно бянтэжыць. Цікава было б ведаць, якія каманды збіраюцца пасланць на Гульні іншыя, сувымерныя з намі, краіны?

## ПАРАЛЕЛЬ ТЫДНЯ

Нашы чыноўнікі ад сельгасхарчу любяць гаварыць пра развал калгасаў і саўгасаў у краінах Балтыі, пра гаротны стан там сельскагаспадарчай вытворчасці. Але вось пра што сведчыць вопыт Літвы. Пакуль Беларусь спрабуе зберагчы хоць бы косці жывёлы, на якіх магло б нарасці мяса, Літва заклапочана тым, як прадаць прадукты, якіх тут лішак. Сёння там такая структура вытворцаў (замест колішніх калгасаў і саўгасаў): 70 тысяч сялянскіх гаспадарак, 3200 акцыянерных таварыстваў, 1600 паявых таварыстваў, некалькі дзесяткаў індывідуальных прадпрыемстваў. І ўсё гэта, заснаванае на прыватнай уласнасці і эканамічнай зацікаўленасці, запрацавала. Прынамсі, калі ў 1989 годзе ў Літве было сабрана 2225 тысяч тон збожжа, дык на тых жа плошчах у 1997-ым — 3051 тысяча тон. Навучыліся працаваць і жывёлаводы: сёння тут атрымліваюць кіло прывагі на працягу адных сутак пры сабекошце аднаго кілаграма жывой вагі меншым, чым у Германіі. Сёння ў Літву завозіцца толькі тое, што там не расце: чай, кава, садавіна... Пра ўсё гэта — артыкул у "Комсомольской правде" за 12—19 мая г. г. пад назваю "Вытворца, якога няма"...

## ПРЫКЛАД ТЫДНЯ

У Польшчы ўступіў у дзеянне "Закон аб польскай мове". Паводле яго, усе надпісы на ўсіх шыльдах павінны рабіцца выключна на польскай мове. Усе органы ўлады, арганізацыі і ўстановы павінны карыстацца арфаграфічна правільнай мовай, клапаціцца аб правільным яе выкарыстанні, перашкаджаць яе вульгарызацыі. Усе замежныя тэксты — юрыдычныя, рэкламныя, інструкцыйныя — павінны быць забяспечаны перакладам на польскую мову. Міжволі згадваецца міхалкоўскае пытанне: "А ў нас?" Пэўна, занадта далёка мы ад Польшчы, як і ад іншых краін, каб пакарыстацца добрым суседскім вопытам, узяць з іх прыклад...

## УБОРКА ТЫДНЯ

У калгасе "Дружба народаў" Пінскага раёна адбылося такое, у што й паверыць цяжка. Старшыня калгаса патраціў нямала сіл і сродкаў, каб прыдбаць элітнае насенне бульбы. Высаджана была тая бульбачка. А ўжо назаўтра поле было пустое — бульба была выкапана. За ноч гэта ўмудрыліся зрабіць мясцовыя бамжы. Хадзіў колісь анекдот пра кітайцаў, якія ўчора саджалі, а назаўтра выкопвалі, кажучы: "Оцэнь кусаць хоцацца!" Ці думаў хто з нас, што й мы дажывём да такога?

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

## Сустрэча з Уралам Латыпавым

Сябры рады і рэдактары літаратурных выданняў запрашаліся на сустрэчу з віцэ-прэм'ерам, міністрам замежных спраў Уралам Латыпавым. Гаворка адбылася, але не ў форме "пытанне—адказ", а як абмен думкамі і меркаваннямі па важных аспектах знешняй і ўнутранай палітыкі Беларусі.

Перш за ўсё В. Іпатава і прысутныя пісьменнікі спрабавалі давесці міністру, што ў міжнароднай дзейнасці з нашага боку не ўлічваецца гісторыя Беларусі, яе дачыненні з суседнімі дзяржавамі. Беларускія амбасадары малаабазнаныя ў нацыянальнай культуры і не здольны прапагандаваць яе каштоўнасці, працаваць на аўтарытэт рэспублікі ў свеце. У якасці станоўчых выключэнняў згадваліся паслы ў Балгарыі (А. Герасіменка), Румыніі (А. Бутэвіч), Славакіі (У. Бельскі), Японіі (П. Краўчанка). Крыўдна, што ў гэтым шэрагу няма кіраўнікоў дыпламатычных прадстаўніцтваў РБ у Расіі і на Украіне. Недастаткова ўвагі ўдзяляюць у пасольствах нашым сябрам — перакладчыкам з беларускай мовы. Падчас іх проста не ведаюць і нават чыняць перашкоды для міжнародных кантактаў.

Шмат канструктыўных прапаноў па наладжванні культурных сувязей выказаў Адам Мальдзіс. "Пераклады змушаюць быць узаемнымі", — адзначыў ён і ў якасці бясспрэчных здабыткаў апошніх гадоў назваў выданні "Кнігазбору", падручнік беларускай мовы для французаў, першы японска-беларускі слоўнік, энцыклапедычны даведнік Я. Запрудніка, дзейнасць беларусістаў Жыдліцкага, Баршчэўскага, Дзінглі. На дзяржаўным узроўні зусім не ўзнімаюцца пытанні рэстытуцыі, нездавальняюча вядзецца работа з дыяспарай.

Зрэшты, нельга западозрыць урадавыя колы і ў сімпатыі да айчыннай свядомай інтэлігенцыі. Прыкладам непавагі да яе, як лічыць Генадзь Бураўкін, з'яўляецца нядаўна створаная камісія па культуры пры Саўміне, дзе з 57 чалавек толькі 3 літаратары, затое эстраднікаў — 15. Чым уздымаць расійскіх поп-зорак, лепей бы павіншавалі з юбілеямі В. Быкава і В. Казько...

Урал Латыпаў пагадзіўся, што час паслоў-гаспадарнікаў сыходзіць, што стаўленне да нацыянальнага часта абумоўлена недахопам агульнай культуры. Адкрытая конкурсная сістэма адбору кадраў у МЗС прызвана палепшыць кадравую сітуацыю.

У час сустрэчы выявілася, што пісьменнікаў хвалюе не толькі нацыянальны змест знешняй палітыкі, але — перадусім — пытанне палітычнай незалежнасці Беларусі. Афіцыйная прэса залішне экзальтавана асвятляе расійска-беларускія ўзаемадачыненні. Выраз "адзіная саюзная дзяржава" ўвогуле абсурдны, бо адно азначэнне выключае другое.

У. Латыпаў паважліва выслухаў усіх, адказаў на пытанні, некаторыя моманты аспрэчыў. Пры гутарцы прысутнічалі пасол па асобых даручэннях Я. Вайтовіч і памочнік міністра А. Скрыпка.

**Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ**

●

Прэзентацыя літаратурна-мастацкіх выданняў адбылася ў Палацы мастацтваў па праграме штогадовай выставы "Прэса Беларусі". На сустрэчу, якую вёў намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Навум Гальпяровіч, прыйшлі галоўныя рэдактары часопісаў "Полымя" Сяргей Законнікаў, "Маладосць" Генрых Далідовіч, "Всемирная литература" Таіса Бондар, "Алеся" Раіса Баравікова, "Нёман" Алесь Жук, газет "Літаратура і мастацтва" Алесь Пісьмянкоў, "Культура" Людміла Крушынская, а таксама выкладчыкі і навучэнцы педагагічнага каледжа, прадстаўнікі грамадскасці сталіцы.

Пра сённяшні і заўтрашні дзень рэдакцыйных калектываў, пра будучыя публікацыі гаварылі таксама супрацоўнікі рэдакцый, аўтары, сярод якіх былі Уладзімір Гніламёдаў, Іван Чарота, народны мастак Беларусі Уладзімір Стальмашонак.

●

Горача і сардэчна віталі ў творчым саюзе напярэдадні Дня перамогі пісьменнікаў-ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Перад імі выступілі в. а. старшыні СБП Вольга Іпатава, народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін, першы намеснік старшыні Дзяржкамдруку Уладзімір Глушакоў, старэйшы пісьменнік Максім Лужанін, ансамбль "Свята" Белдзяржфілармоніі і іншыя. Ветэраны не толькі ўспаміналі былыя паходы, а гаварылі пра сённяшні дзень, пра праблемы, якія стаяць перад пісьменніцкай арганізацыяй, пра свой удзел у выхаванні маладога пакалення.

●

Адбыліся чарговыя пасяджэнні секцый паэзіі і прозы. На іх былі разгледжаны творы маладых, лепшым з якіх былі дадзены рэкамендацыі для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў.

●

Аднавілі сваю дзейнасць традыцыйныя "траецкія кірмашы", якія ладзяць у Траецкім прадмесці Беларускі фонд культуры, Міністэрства культуры, Мінскі гарвыканкам пры ўдзеле Беларускага саюза народных майстроў і Саюза беларускіх пісьменнікаў. Гасцямі "літаратурнай гасцёўні" кірмаша, на які сабраліся таленты з Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці, былі ўдзельнікі школьных літаратурных аб'яднанняў раёна, метадысты раённага аддзела адукацыі, настаўнікі, прадстаўнікі мясцовай прэсы. Перад імі выступілі пісьменнікі Навум Гальпяровіч і Уладзімір Саламаха. Юныя паэты чыталі свае вершы, гаварылі аб надзённых праблемах. Вынікамі сустрэчы стала дамоўленасць аб паездцы групы літаратараў у Асіповічы, арганізацыі сустрэч і творчых вечароў, а таксама канкрэтнай дапамогі пачынаючым аўтарам у цэнтральных перыядычных выданнях.

●

З вёскі Вайвады, што ў Латвіі на адрас нашага творчага саюза прыйшоў ліст ад дачкі нядаўна памёршага старэйшага беларускага пісьменніка Эдварда Вайвадзіша. Яна дзякуе Саюзу беларускіх пісьменнікаў за ўвагу да творчасці бацькі.

Творчасці Э. Вайвадзіша, які памёр на 104-м годзе жыцця прысвечаны раздзел у літаратурнай сядзібе Сяргея Панізніка ў вёсцы Цінкаўцы Верхнядзвінскага раёна. А да Свята плытагонаў, якое пройдзе ў канцы мая ў Верхнядзвінску ў рамках міжнароднага літаратурна-культуралагічнага праекта "Двина-Дзвіна-Даўгава", у горадзе адкрыецца выстава "На хвалях Дзвіны", дзе будзе ўганараваны і Э. Вайвадзіш — былы вучань Дрысенскага вучылішча.

**Н. К.**




# Траецкі кірмаш

Міністэрства культуры рэспублікі Беларусь разам з Беларускім фондам культуры і Мінскім гарадскім выканаўчым камітэтам праводзяць Траецкія кірмашы. Каляндарны план выставак-продажу вырабаў майстроў народнай творчасці з паказам раённай самадзейнасці разлічаны на некалькі гадоў. Паказаць узровень матэрыяльнага і духоўнага ўмельства сваіх талентаў павінны ўсе раёны Беларусі.



Працягам гэтай задумы ў 2000-ым годзе быў святочны кірмаш майстроў народнай творчасці Асіповіцкага раёна "Асіповіцкія крыніцы", які праходзіў 13 мая. Свята ўдалося і адпавядала яго эпіграфу:

***Зашумела, забурліла***
***Творчая крыніца,***
***Ды такая яе сіла,***
***Што адно — дзівіцца!***

Хаця надвор'е выдалася вельмі не святочнае і не майскае, але раён ганарова выстаяў разам з выканаўчай дырэкцыяй кірмашу перад прыроднай стыхіяй і наладзіў вясёлае свята. У "Горадзе майстроў" можна было пабачыць і набыць самабытныя мастацкія вырабы, створаныя майстрамі-самародкамі. Вабілі і цешылі вока "Хаты-майстэрні", "Асіповіцкі габелен", "Красненская лаза", "Саламяныя ўзоры", "Гліняная пластыка". Хто жадаў, можна было павучыцца аваладаць майстэрствам пляцення з лазы ды саломы, ткацтва і глінянай пластыкі. "Каўгарская карчма" гасцінна частавала непаўторнымі смакаўнымі стравамі мясцовай кухні. Выклікала інтарэс выстаўка-продаж дароў прыроды і вырабаў раённых прадпрыемстваў пад шыльдай "Дары Асіповіцкай зямлі". Падагравалі настрой, запрашалі і дапамагалі грэцца дасціпныя кірмашовыя гульні і забавы.





Увесь кірмаш быў прыгожа аздоблены выступленнем калектываў раённай мастацкай самадзейнасці.

**Яўген АДАМОВІЧ**

*Фота Ул. КРУКА*

ВІНШУЕМ!

# Актрыса, якая марыць танцаваць

Пісаць пра славутую актрысу Стэфанію Міхайлаўну Станюту мне выпала ўпершыню: што ж, "малады, каюся", як казаў адзін кінагерой. Я магу толькі ўявіць той час, калі яна, пятнаццацігадовая дзяўчынка, прыйшла ў Беларускае таварыства драмы і камедыі, як вучылася ў Беларускай драматычнай студыі, што ў Маскве, працавала ў БДТ-ІІ і як спазнала сапраўднае прызнанне на сцэне БДТ-І — Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы.

Сотні персанажаў сыграла Стэфанія Міхайлаўна на сцэне Купалаўскага тэатра. І ўвечары, калі гасне святло рампы, і свае грымёрныя пакідаюць акцёры, яе даўнішнія героі зноў выходзяць на сцэну. І прыгажуня Глафіра ("Ваўкі і авечкі"), і легкадумная Зіна Зёлкіна ("Хто смяецца апошнім"), і вынаходлівая Эліза ("Скупы"), якіх С. Станюта іграла яшчэ да вайны. І Марыля ("Раскіданае гняздо"), і Бабуля ("Я, бабуля, Іліко і Іларыён"), і Гіза ("Гульня з кошкай"), і Арына Радзіёнаўна ("Верачка"), і Мод ("Гаральд і Мод"), якіх увасобіла ў мірны час. Героі памятаюць актрысу, якая дала ім жыццё. А ці жыве яна ўспамінамі пра іх?

"Няхай даруюць мне драма і тэатр — я хацела быць балерынай", — зусім нечакана прызналася Стэфанія Міхайлаўна ў эксклюзіўным інтэрв'ю "Комсомольской правде в Белоруссии". — Мяне ў тэатры добра прымаюць, гэта прыемна, а ўсё ж такі калі гляджу танцы, балет, харэаграфію, фігурнае катанне, мастацкую гімнастыку — сэрца замірае. Я вельмі моцна любіла танцаваць". Калісьці даўно актрыса прызнавалася, што прыйшла ў тэатр выпадкова. Тэатразнаўца Р. Смольскі не мог пагадзіцца з гэтым: "Стэфанія Міхайлаўна Станюта ў дзяцінстве не марыла менавіта пра тэатр, гэта так, але праўда і іншае — была глыбокая ўнутраная артыстычнасць, добрае і чулае да чужога болю сэрца. З гэтым, як кажуць, нараджаюцца. А калі дадаць, што з самага ранняга дзяцінства Стэфанія Міхайлаўна захаплялася музыкай, паэзіяй, танцамі, то міжволі просіцца выснова, што ўсе яе шляхі вялі менавіта ў тэатр да акцёрскай прафесіі". Крытыкі ўхвалююць майстэрства актрысы. А ці хоча ўхваляць гэтыя імгненні яна?

У эксклюзіўным інтэрв'ю Стэфанія Міхайлаўна нагадала пра час, калі зусім не было работы. "Кіно я ўдзячна за тое, што яно мяне пазбавіла ад пакутаў беспрацоўнай актрысы ў тэатры... Мяне не бачылі — што ж, я сілком навязуся, калі са мной не хочуць працаваць? Я любіла свае ролі, нават маленькія". Мне не давялося бачыць Стэфанію Міхайлаўну на сцэне, але я бачыла кінафільмы, у якіх яна іграла. Напрыклад, у стужцы "Развітанне" Л. Шапіцькі, незабыўны і выбітны па сваёй трагічнасці вобраз Дар'і, якая разам з вяскоўцамі застаецца ў затопленай вёсцы. І сёння мяне захапляе гэты фільм. А актрысу?..

...Стэфаніі Міхайлаўне Станюце споўнілася 95 гадоў. У мінулым — багатае творчае жыццё. Але так бывае, што чалавек можа быць узнагароджаны шчаслівым лёсам і адной самай запаветнай марай, якая... не здзейснілася. Выдатная актрыса Стэфанія Станюта марыць танцаваць.

**В. Б.**





*Фота Ул. Крука.*

# Амплуа? Жыццялюб!

## НАРОДНАМУ АРТЫСТУ БЕЛАРУСІ Віктару ЧАРНАБАЕВУ — 70

Жартаўнік, весялун, жыццялюб! Такі ён і ў закулісных буднях, і ў сяброўскай бяседзе. Створаныя ім вакальна-сцэнічныя вобразы — ці то напоўненыя абаяльнай камедыйнасцю, ці то пазначаныя саркастычнымі рысачкамі, ці то пададзеныя ў жорсткай гратэскавай манеры — жывая гісторыя Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы. А гэты неперайманы гумар, які адчуваеш праз інтанацыі чарнабаеўскага голасу: і ў каларытным фальклорным абразку, і ў знішчальна-іранічнай "Песні пра блыху", і ў бязглуздым шчыраванні цара Дадона з "Залатога пеўніка", і ў знакамітым расініеўскім доктары Бартала!

Але не быў бы артыст Артыстам, калі б не здолеў кінуць выклік стэрэатыпам свайго амплуа, якое гэтак даспадобы прыхільнікам В. Чарнабаева, і не стварыў бы суровы і трагічны вобраз караля Філіпа ў оперы "Дон Карлас"...

Мала каму са спевакоў наканавана сцэнічнае даўгалецце. З гэтых нямногіх — і В. Чарнабаеў: слухаць, бачыць яго ў оперных спектаклях і канцэртных праграмах пашанцавала не аднаму пакаленню меламанаў.

**С. Б.**



*На здымку: некалькі гадоў таму Віктар ЧАРНАБАЕЎ выканаў ролю Уберта ў канцэртнай пастаноўцы оперы "Служанка-пані".*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

ПРЭЗЕНТАЦЫІ

# З Наваградкам звязаны душой

Прэзентацыі адразу дзвюх кніг прайшлі ў Доме культуры горада Наваградка — рамана Генрыха Далідовіча "Кліч роднага звона" і кнігі аповесцяў Таісы Супрановіч "Мужчыны і жанчыны". Што наконт Г. Далідовіча, дык яго асабліва прадстаўляць няма патрэбы: слынны празаік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь і Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа. Паспеў знайсці свайго чытача і яго новы раман "Кліч роднага звона", які публікаваўся ў часопісе "Полымя", а пасля першая частка выходзіла ў выдавецтве "Юнацтва", а цяпер абедзве пабачылі свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура". А вось Т. Супрановіч толькі ўваходзіць у літаратуру. Выступала ў часопісе "Маладосць", а цяпер у "Бібліятэцы..." гэтага аўтарытэтнага выдання дачакалася і сваёй першай кнігі. Аб'ядноўвае ж Г. Далідовіча і Т. Супрановіч тое, што абодва маюць дачыненне да наваградскай зямлі. Праўда, Т. Супрановіч больш непасрэднае, бо загадвае мясцовай дзіцячай бібліятэкай і ў сваіх творах расказвае пра тых, каго добра ведае. А вось Г. Далідовіч, як вядома, у рамане "Кліч роднага звона" запрашае чытача зазірнуць у XIII стагоддзе, расказваючы пра ўзвышэнне Наваградка як горада, княства і цэнтра будучай вялікай беларускай дзяржавы.

Акрамя аўтараў, у гэтым свяце кнігі прынялі ўдзел і пісьменнікі Казімір Камейша і Андрэй Федарэнка. Выступілі на прэм'еры і загадчык раённага аддзела культуры Аляксандр Карачан, настаўнік Зарачанскай школы Іван Лісоўскі... Гаворка вялася, зразумела, найперш пра дзве новыя кнігі, але гэта не абмяжоўвала яе змест. Закраналіся і надзённыя праблемы захавання гістарычнай спадчыны, нацыянальнага Адраджэння, што немагчыма без зберажэння роднай мовы.

**Н. К.**

**У рэдакцыю газеты "Літаратура і мастацтва"**

Нізка кланяюся бацькам і дзецям, настаўнікам і вучням, пісьменнікам і журналістам, землякам, сябрам і начальнікам, усім-усім добрым людзям, якія павіншавалі мяне з юбілеем. Хачу і надалей апраўдваць ваш давер.

Натхнёны вашымі пажаданнямі!

**Уладзімір ЛІПСКІ**

АБСЯГІ

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Вясна па-студэнцку

У Палацы культуры Магілёўскага аб'яднання "Хімвалакно" прайшоў фінал абласнога фестывалю "Студэнцкая вясна-2000". Больш за сем тысяч удзельнікаў (навучэнцаў і студэнтаў з 28 навучальных устаноў Магілёўшчыны) бралі ўдзел у гэтым фестывалі. У творчым спаборніцтве сустрэліся як прафесійныя, так і самадзейныя калектывы. Больш за сотню юнакоў і дзяўчат сталі лаўрэатамі і пераможцамі. Яны былі ўзнагароджаны дыпломамі і падарункамі. А тры навучальныя ўстановы, якія заваявалі найбольшую колькасць дыпломаў (Магілёўскае музвучылішча, гімназія-каледж музыкі і харэаграфіі і тэхнічны універсітэт), у бліжэйшы час атрымаюць па мільёну рублёў на набыццё музычнай апаратуры.

## "Званы праваслаўя"

Пад такой назвай праходзіць у Бабруйску персанальная выстава заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Леаніда Дударэнкі. На 42-х карцінах — велічная прыгажосць цэркваў, сабораў, кляштараў, якія мастак убачыў у Беларусі, Расіі і за мяжой. Дарэчы, Дударэнка больш вядомы як выдатны партрэтыст. Ягоныя работы захоўваюцца ў шматлікіх прыватных калекцыях і ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.

## Ветэраны наперадзе

Дыпламантам абласнога агляду харавых калектываў стаў самадзейны хор ветэранаў вайны і працы Цэнтра выхаваўчай работы "Росквіт" Першамайскага раёна Бабруйска. Дагэтуль калектыў заняў першае месца ў гарадскім аглядзе харавых спеваў.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## "ARCHE" сустрэўся з чытачамі

Днямі галоўны рэдактар часопіса "ARCHE" Валерка Булгакаў, дырэктар і заснавальнік Андрэй Дынько, рэдактар выдання Анатоль Прасаловіч сустрэліся з віцебскімі чытачамі. Прэзентацыя часопіса праходзіла ў форме дыскусіі, падчас якой спадары Булгакаў і Дынько падзяліліся сваімі думкамі аб будучым "ARCHE", ягонай канцэпцыі і задачах. Яны паведамілі, што з 1998 года выйшла сем нумароў часопіса, а з другога паўгоддзя выданне становіцца падпісным. Кожны нумар мае тэматычны стрыжань. Першы, прысвечаны парнаграфіі па-беларуску, ніяк не засведчыў, што часопіс схільны да эпатажу.

— Мы арыентаваліся на тыя нервы, якія аб'ектыўна прысутнічаюць у нашым беларускім грамадстве, — падкрэсліў Булгакаў. — Часопісу наканавана адкрываць тое, што раней было забаронена, запаўняць пустоты беларускай думкі слова. Таму рэдкалегія спадзяецца, што выданне дасць пачатак незалежніцкай актыўнасці беларускіх масаў.

Зараз "ARCHE" становіцца штомесячным выданнем, і тоўсты часопіс запланавана чаргаваць з тонкім — "ARCHE-Скарына". У перспектыве апошні будзе выходзіць раз у два месяцы.

**Святлана ГУК**

*БРЭСТЧЫНА...*

## Форум лінгвістаў

160-гадоваму юбілею Францішка Багушэвіча і 200-ым угодкам Яўгенія Баратынскага прысвяцілі сваю штогадовую навукова-практычную канферэнцыю студэнты філалагічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта. Доўжылася канферэнцыя два дні. Працавалі 34 секцыі, на якіх узнімаліся пытанні мовы і літаратуры, выкладання прадметаў гуманітарнага цыкла ў базавай школе і старэйшых класах адзінаццацігодкі, гаварылася пра набыткі лінгвакраязнаўцаў... Гэтым разам на поўны голас заявілі пра сябе студэнты польскага і украінскага аддзяленняў, якія абмяркавалі праблемы лексікалогіі і словаўтварэння ў польскай і украінскай мовах, інтэрпрэтацыі мастацкіх тэкстаў у польскай літаратуры, гаварылі пра эстэтыку, паэтыку і методыку выкладання украінскай літаратуры.

**Уладзімір ТАРАСЮК**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Напярэдадні ўсебеларускага фестывалю

Адбылося пасяджэнне аргкамітэта трэцяга Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур, якое правёў старшыня Гродзенскага гарвыканкама А. Пашкевіч.

— Горад рыхтуецца да свята, хоць гэта і не вельмі проста ў сённяшніх эканамічных умовах, — адзначыў мэр горада.

Аб правядзенні фестывалю, зыходзячы з рэальных магчымасцяў, гаварылі намеснік міністра культуры Беларусі, старшыня аргкамітэта свята В. Гедройц, начальнік упраўлення культуры аблвыканкама Л. Кадзевіч. Фестываль адбудзецца на працягу двух дзён, 2—3 чэрвеня. Абодва дні будуць насычаны мерапрыемствамі, якія пройдуць практычна на ўсіх традыцыйных пляцоўках гарадскога гістарычнага цэнтра. А 3 чэрвеня на вольным паветры будуць разгорнуты 15 нацыянальных падворкаў, дзе можна будзе паслухаць і паглядзець народныя песні і танцы. На свята запрошана каля 700 гасцей і ўдзельнікаў, якія прадстаўляць усе нацыянальныя суполкі, што існуюць на Беларусі.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Чарговыя "Сустрэчы"

Шосты міжнародны фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы" адкрыўся спектаклем Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа з Віцебска "Чорная нявеста" па драматычнай п'есе А. Дударава. Свае лепшыя пастаноўкі паказалі Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, Гомельскі абласны драмтэатр, Гомельскі гарадскі маладзёжны тэатр-студыя, а таксама тэатральныя калектывы з Расіі.

## Святкуе Тураў

Тураў урачыста адзначыў 1020-годдзе з дня заснавання і 870-годдзе з дня нараджэння слыннага асветніка Кірылы Тураўскага. Жыхары і госці горада сабраліся ля помніка Кірылы Тураўскага, што на Замкавай гары. Пра духоўную спадчыну асветніка, гуманізм яго дзейнасці гаварыў прэзідэнт Таварыства Кірылы Тураўскага В. Сяліцкі.

## "Памяць" Чачэршчыны

Выйшла ў свет гісторыка-дакументальная кніга-хроніка "Памяць" пра Чачэрскі раён. Яна расказвае аб гісторыі, сацыяльна-эканамічным развіцці гэтага кутка Палесся. Вялікае месца адведзена ў кніжцы звесткам аб земляках, якія загінулі ў апошняй вайне. Расказвае "Памяць" і аб знакамітых ураджэнцах Чачэршчыны. Прэзентацыя выдання адбылася ў мясцовым Доме культуры.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**





## На вечарыне быў аншлаг

**У першыя дні вясны ў Дзяржаўным Літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася сустрэча з Леанідам Дранько-Майсюком, аўтарам паэтычных кніг "Вандроўнік", "Над пляцам", "Тут", "Акропаль", "Стомленасць Парыжам", "Гаспода". Па творах Л. Дранько-Майсюка можна меркаваць пра арыгінальнасць і сучаснасць нашай нацыянальнай культуры, яе магутны, невычэрпны патэнцыял. Пра гэта сведчыць і той факт, што сп. Леанід — удзельнік міжнароднага праекта "Літаратурны экспрэс Еўропа-2000".**



**На вечарыне быў аншлаг. Жадаючых паслухаць паэта было нашмат больш, чым магла змясціць утульная зала Дома Купалы. Гадзіны размовы праляцелі хутка і незаўважна, але прыхільнікі таленту сп. Леаніда доўга не хацелі развітвацца з любімым паэтам, задавалі мноства пытанняў, бралі аўтографы.**

**Дзіяна КАВАЛЕВІЧ,**
**ст. навуковы супрацоўнік музея Янкі Купалы**

*Фота С. ЛУК'ЯНАВА*

## Ветэраны — суворaўцам

**У рамках святкавання 55-годдзя Вялікай Перамогі ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылася сустрэча курсантаў Мінскага Суворaўскага ваеннага вучылішча з беларускімі літаратарамі-ветэранамі, а таксама з тымі з іх, у чый лёс вайна ўвайшла ў дзяцінстве.**

**Дзяліліся ўспамінамі пра гады ліхалецця пісьменнікі Мікола Татур, Іван Кудраўцаў, Уладзімір Паўлаў.**

**Паэт Мікола Татур у час вайны быў партызанам, яго памяць захавала цікавыя эпізоды з ваеннага юнацтва — жыццё ў акупаванай зоне, выезды на баявыя аперацыі.**

**Пісьменніку Івану Кудраўцаву давялося ваяваць у дзеючай арміі. Будучым афіцэрам цікава і пазнавальна было паслухаць пра тагачаснае ўзбраенне і тактыку вядзення танкавых баёў. Падзяліўся Іван Фёдаравіч і сваімі творчымі набыткамі. Вайна пакінула значны след у памяці былога воіна. Нататкі з ваенных дарог ляглі ў аснову раманатрылогіі аб Вялікай Айчыннай вайне.**

**Уладзімір Паўлаў узнавіў у памяці хроніку вайны: так, афіцыйна падлічана, што на Беларусі загінуў кожны трэці жыхар, зруйнавана і спалена сотні вёсак, не злічыш і тых маці, што страцілі ўсіх сваіх сыноў...**

**Закончылася сустрэча выступленнем прыхільніка Коласаўскага музея інжынера завода колавых цягачоў Язэпа Гарэцкага, які па-мастацку прачытаў раздзел з коласаўскай паэмы "Новая зямля".**

**Заслужанымі апладысментамі закончыў сваё выступленне і паэт-бард Валерый Пазнякевіч. Ён выканаў шэраг патрыятычных песень на ўласныя словы. Напрыканцы ветэранам былі ўручаны кветкі з Коласавай сядзібы.**

**Ганна ЗАЙЦАВА**

## Юныя таленты з Наваградка

**У Наваградскай дзіцячай музычнай школе адбыўся незвычайны канцэрт. Асаблівасць яго ў тым, што слухачы пазнаёміліся з творамі двух юных кампазітараў: вучаніцы 3 класа Крысціны Кашур і вучаніцы 2 класа Кацярыны Фалевіч. Дзяўчаткі займаюцца на фартэпіянным аддзяленні ў выкладчыка А. Хаміцкай. Музыка кожнай з іх мае індывідуальныя рысы. Тэмпераментны характар Каці выяўляецца ў хуткіх і напорыстых п'есах, больш спакойная Крысціна выяўляе сябе ў лірычных. Акрамя іх фартэпіянных мініяцюр, на канцэрце гучала музыка для скрыпкі, цымбалаў, домры, духавых інструментаў: "Яўрэйскі танец", "Элегія", "Музычныя карцінкі", "Вясновы вальс". З вялікай цікавасцю публіка пазнаёмілася і з фартэпіяннымі дуэтамі дзяўчынак.**

**Гэты канцэрт стаўся адмысловым этапам у падрыхтоўцы Крысціны і Каці да сёлетняга Міжнароднага конкурсу юных кампазітараў імя Ю. Семянякі, што традыцыйна праводзіцца ў Гродне.**

**В. РАДЗІЁНАЎ,**
**старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны**

КАНФЕРЭНЦЫІ

# Зерне, кінутае ў ніву

У 91-ым годзе ў Сенніцкай агульнаадукацыйнай школе пачаўся эксперымент: набралі дзяцей у незвычайны клас — клас, дзе выхаванне вядзецца сродкамі традыцыйнага мастацтва і фальклору. Канферэнцыя з паэтычнай назвай "Зерне, кінутае ў ніву" адбылася ў гонар першага выпуску этнашколы і мела тры часткі: навукова-метадычную, экспазіцыйную і мастацкую.

На канферэнцыі выступілі навуковы кіраўнік праекта, дацэнт БУКа І. Сучкоў, дацэнт БДПУ імя Танка А. Лозка, намеснік дырэктара Купалаўскага музея Ф. Ваданосава, дырэктар бібліятэкі імя Талстога г. Мінска Н. Карзюк. Усе названыя — добрыя сябры, аднадумцы, дарадчыкі. Нагадаем, што школа носіць імя Купалы (ён тут непрацяглы час вучыўся), і купалаўцы дапамаглі мясцоваму музею з афармленнем і экспанатамі. У гарадской бібліятэцы неадночы ладзіліся вечарыны з удзелам фальклорнага гурта з Сенніцы, на іх запрашаліся чытачы і падшэфныя — навучэнцы 107-га вучылішча.

"Нас адарвалі ад нашага багацця. Гераічныя намаганні асобных педагогаў не знаходзяць падтрымкі ў дзяржавы", — такой была думка госця канферэнцыі, публіцыста Васіля Якавенкі. З ім цяжка не пагадзіцца. Такія пачынанні трымаюцца энтузіязмам педагогаў, у дадзеным выпадку — класнага кіраўніка 9"А" Ф. Таранавай, завуча этнашколы Б. Івановай.

"На голым месцы пачыналі, у рускамоўным асяроддзі", — расказвае выдатнік адукацыі Фаіна Таранава. — Калі "пахаладнела", два класы выйшлі з эксперыменту, а сёлета мы набралі нулявы. На сёння, дзякуючы дырэктару, ёсць матэрыяльная база, хапае метадычнай літаратуры. Патрабуе дапрацоўкі адно праграмная частка праекта. Адчуваем, што болей трэба працаваць з сям'ямі".

Настаўніца невыпадкова сказала пра сям'ю. Вучні тут не спецыяльна адабраныя, элітарныя, а мясцовыя, падчас не вельмі дагледжаныя. Тым больш важна развіць іх здольнасці, дапамагчы раскрыцца, абудзіць дух. У класах этнашколы (а гэта 10 адсоткаў ад агульнай колькасці) дзеці вучацца рэзаць па дрэве, шыць, вышываць, выразаць выцінанкі, працуюць з глінай і саломкай. (Другакласнікі ўжо здольны зрабіць "павука"!)



Навучэнцы вывучаюць сямейна-бытавыя абрады і каляндарныя святы беларусаў, народны касцюм, займаюцца па класе скрыпкі і цымбалаў. Па сутнасці гэта школа беларусазнаўства — прадмета, які павінен быць у кожнай вышэйшай, асаблівай тэхнічнай, установе. На жаль, загадам міністра адукацыі адпаведныя кафедры зачыняюцца. А якія ўсходы можа даць зніveліраванае, зведненае духоўна, адарванае ад глебы навучанне?..

"Гэтыя дзеці вылучаюцца культурнасцю, — гаворыць дырэктар Сенніцкай школы А. Кучараў. — Ад іх не пачуеш брыдкага слова. Веданне народных святаў — Дзядоў, напрыклад, — выхоўвае ў іх толькі добрае".

Дырэктар не ўтрымаўся, каб не паказаць школьныя класы. Прадмет яго асаблівай гордасці — па-сучаснаму абсталяваны кабінет хіміі (сам ён мае дзве адукацыі — настаўніка хіміі і будаўніка). Шырока расчыніў дзверы бухгалтэрыі. Аказалася, што школа аддзялілася ад раённага аддзела адукацыі і фінансуецца напрамую ад Мінскага райвыканкама. Гэта азначае, што яна вядзе самастойную гаспадарча-фінансавую дзейнасць. Сама сабе гаспадыня! "Калі дырэктар школы не мае юрыдычных правоў, то ён проста старэйшы настаўнік. Будучыня за такімі школамі", — лічыць А. Кучараў. І хоць этнакласы патрабуюць немалых выдаткаў (касцюмы, музычныя інструменты і г.д.), яны і надалей будуць атрымліваць належную ўвагу і спрыянне з боку падкіраўніцтва.

...Выпускнікі, акрамя рэфератаў, падрыхтавалі фальклорную праграму — цэлае тэатралізаванае відовішча. Прыкметна хваляваліся. У іх не заўважалася той завучанай малайцаватасці, характэрнай для "самадзейнікаў". Але як яны рухаюцца, як трымаюць галаву і плечы!

Псіхалагічная служба школы правяла тэсты па разумовым развіцці і інтэлектуальнай лабільнасці. 9 "А", у параўнанні з кантрольным класам, паказаў лепшыя вынікі...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*На здымку: удзельнікі канферэнцыі дзеляцца ўражаннямі.*

*Фота Я. КАЗЮЛІ, БЕЛТА.*

ДАТЫ

# З дыярыуша Беларускага універсітэта культуры

25 гадоў таму 1 верасня 1975 года адбылося адкрыццё Мінскага інстытута культуры, якому суджана было ўжо ў 1993 годзе стаць Беларускім універсітэтам культуры. Нягледзячы на свой малады ўзрост, дзяржаўная навучальная ўстанова заявіла аб сабе як вядучая ў галіне культуры і мастацтва Беларусі.

У арсенале Беларускага універсітэта культуры чатыры факультэты. Старэйшы з іх — факультэт бібліятэчна-інфармацыйных сістэм, заснаваны яшчэ ў 1944 годзе ў Педагагічным інстытуце. Зараз на факультэце вядзецца падрыхтоўка студэнтаў па спецыяльнасці бібліятэказнаўства і бібліяграфія, музейная справа і ахова помнікаў гісторыі і культуры. На факультэце культуралогіі, які на працягу свайго існавання заўсёды ў пошуку новых формаў, рыхтуюцца спецыялісты па культуралогіі, літаратурнай рабоце, сацыяльнай педагогіцы, сацыяльнай рабоце, рэжысуры, народнай творчасці. Адной з візітных картак універсітэта з'яўляецца факультэт мастацкай творчасці, які прадстаўляюць шэраг творчых калектываў, дзе выхоўваюцца будучыя майстры народнай творчасці, мастацтва эстрады, дырыжыравання. Па ўсіх спецыяльнасцях атрымліваюць вышэйшую адукацыю на факультэце завочнага навучання. Усяго ў сучасным навучальным комплексе Беларускага універсітэта культуры, рыхтуюцца студэнты па 13 спецыяльнасцях і 38 спецыялізацыях. За апошнія гады створаны адзіныя адукацыйныя комплексы з Магілёўскім бібліятэчным тэхнікумам, Мінскай гімназіяй-каледжам N 24. У 1996 г. адкрыты мазырскі філіял факультэта завочнага навучання на базе музычнага вучылішча.

Усяго ва універсітэце вучыцца 2275 студэнтаў дзённай і 1719 завочнай формаў навучання, якія маюць магчымасць атрымаць жыллё ў інтэрнатах БУКа.

Універсітэт мае высокі навуковы і творчы патэнцыял. На 25 кафедрах БУКа працуюць 18 прафесараў, 13 дактароў навук, 89 дацэнтаў, 94 кандыдаты навук, 6 акадэмікаў, 10 заслужаных работнікаў і дзеячаў культуры, мастацтва і адукацыі Беларусі.

Ва універсітэце дзейнічаюць магістратура, аспірантура і дактарантура па асноўных накірунках падрыхтоўкі спецыялістаў. Створаны тры Саветы па абароне кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый.

Беларускі універсітэт культуры наладжвае і падтрымлівае шырокія міжнародныя стасункі з замежнымі ВНУ Германіі, Даніі, Польшчы, Расіі, Украіны і іншых краін. Дзейнасць звыш 50 творчых калектываў універсітэта таксама падтрымлівае і павышае аўтарытэт БУКа за межамі нашай краіны.

25-годдзе Беларускага універсітэта культуры будзе адзначана падвядзеннем вынікаў навуковай працы на дзвюх Міжнародных навуковых канферэнцыях, якія універсітэт праводзіць у маі сёлетняга года: "Інфармацыйныя рэсурсы бібліятэкі і іх кадравае забеспячэнне" (23—25 мая) і "VI Кірыла-Мяфодзіеўскія чытанні" (24—26 мая). Святочнае пасяджэнне вучонай рады мяркуецца на 11 гадзін 26 мая 2000 г. у Беларускім універсітэце культуры, з удзелам гасцей з Германіі, Даніі, Украіны, Расіі. Вечарам, а 18 гадзіне ў Доме афіцэраў адбудзецца гала-канцэрт вядучых творчых калектываў БУКа.

Для асвятлення падзеі запрашаюцца вядучыя сродкі масавай інфармацыі.

Прэс-цэнтр БУКа, тэл.: 222-83-27.

**Лора ДОЎНАР**

ІМПРЭЗЫ

# Дырыжоры, на парад!

Сёння ў Дзяржаўным музычным тэатры — незвычайная вечарына: "Парад маладых дырыжораў". Ідэя яе правядзення належыць галоўнаму дырыжору тэатра Аляксандру Сасноўскаму. Ён і арганізаваў імпрэзу, заручыўшыся падтрымкай Міністэрства культуры Беларусі, Мінскага гарвыканкама і роднага творчага калектыву.

"На парад" збіраюцца сямёра, не — шасцёра хлопцаў і адна дзяўчына-дырыжор. А яшчэ — каля сотні музыкаў-інструменталістаў: яны складуць вялікі зводны калектыў з двух аркестраў — Дзяржаўнага музычнага ды Брэсцкага абласнога тэатра драмы і музыкі. У 1-м аддзяленні канцэртнай праграмы прагучыць папулярная музыка Глінкі, Глазунова, Глебава, Хачатурана, Шастаковіча ды інш. Затым — творы амерыканскіх кампазітараў: Бернстайна, Портэра, Уэбера...

Творчы патэнцыял і прафесіяналізм маладых айчынных дырыжораў ацэняць і дасведчаныя слухачы, і аркестранты, і — журы. Яго ўзначальвае маэстра Г. Праватораў, поруч з якім — знаныя музыканты П. Вандзілоўскі, Л. Іваноў, М. Казінец, М. Калядка, Л. Лях, А. Мдзівані, Л. Муранаў, М. Солапаў, А. Янпольскі. І, вядома ж, — маэстра А. Сасноўскі, які лічыць першы ўсебеларускі "Парад дырыжораў" прыступкай да заснавання ў Мінску конкурсу дырыжорскага майстэрства. Магчыма, нават міжнароднага. Передумовы для гэтага ўжо ёсць.

**С. Б.**

ВАРУНКІ

# Хто мы?.. Куды ідзём!..

16 КРАСАВІКА 1999 года. Сонечны, ціхі, на рэдкасць цёплы для такога часу дзень. "ПАЗік" шустра бег па дарозе Камаі—Паставы, паабапал якой, як вокам акінуць, зелянела, дружна цягнулася да ласкавага неба рунь. Пра сябе радасна адзначыў: павінны быць з хлебам.

Я ехаў у Расію на сустрэчу з чалавекам, з якім амаль два гады спаў побач на нарах у Нямеччыне, куды нас закінула чорная фашысцкая навала. Пры думцы аб сустрэчы сэрца пачынала біцца часцей, гарачыя хвалі пачуццяў балюча разліваліся па грудзях. Зразумела, як мы разлучыліся ў ліпені 1945-га, прайшло 54 гады! Гэта — цэлае жыццё, нават — вечнасць.

Наступным днём а палове дзевятай гадзіны я сеў у электрычку Віцебск—Смаленск. Калі цягнік перасёк мяжу паміж Беларуссю і Расіяй, на першым жа прыпынку вагон атакавалі гандляры. З дарожнымі сумкамі, рукзакамі, мяхамі:

— Каму малако, смятану, тварог, масла?.. Мяняю беларускія на рускія, рускія на беларускія!

Колы вагона манатонна пастуквалі на стыках. За вокнамі мільгалі красавіцкія пейзажы. Маю ўвагу прыцягнуў жоўты колер палёў, якія цягнуліся за далягляд. Калі я ехаў з дому ў Віцебск, то ўсюды паўз дарогу рунела азіміна, прыгрэтая шчодрым сонцам ішла ў рост. А тут... Падумалася, што пасля жніва палеткі восенню не ўзаралі, таму цяпер і жаўцелі ад іржышча. На Смаленшчыне калгасы і саўгасы распусцілі, палі не засяваюцца, вось яны з году ў год і зарастаюць бур'яном. Зрэдку дзе-нідзе зелянелі невялікія лапікі зямлі — гэта былі ўладанні нешматлікіх фермераў.

— І як вы так жывяце? — пытаюся ў жанчыны-пенсіянеркі, што сядзела побач са мной.

— А нас беларусы кормяць, — не задумваючыся, адказала тая. — Падыходзім да цягнікоў, купляем у вашых прадукты, іншае што. Дзешавей, чым у нашых магазінах.

— А ці трымаеце якую жыўнасць?

— Калі толькі карову.

Глянуўшы ў акно, жанчына прадоўжыла:

— Бачыце, выпальваюць леташнюю траву. А вырасце што — касіць будуць. Саматугам нацягаюць сена на зіму. А свіней і курэй не трымаем, для іх патрэбны зерне, мука. А ўзараць зямлю, засеяць яе, убраць ураджай — для гэтага няма ні коней, ні тэхнікі. А вунь вёска на пагорачку, там дзесьці 40-50 хат, а заселены якіх 10-15, не болей. І то людзьмі, якія дажываюць свой век. Выміраюць нашы вёскі...

Уздоўж чыгункі, колькі імчаўся цягнік, гарэла і гарэла сухая, пажоўклая трава. Два колеры стаялі перад вачыма — жоўты і чорны, сімвалы расстання і смерці.

— А ці вялікую пенсію атрымоўваеце? — спытаў у сваёй спадарожніцы.

— 430 рублёў.

У цягніку, абменьваючы грошы, за адзін расійскі рубель бралі 14500 беларускіх "зайцоў". У гэтай звычайнай жанчыны, якая ўсё жыццё працавала даяркай, пенсія на нашы грошы — крыху больш шасці мільёнаў. У мяне, ветэрана настаўніцкай працы, яна ледзь дацягвае да пяці з паловай. Успомніў радкі з пісьма Пятра Шчадрова, да якога ехаў на сустрэчу ў горад Сафонава: "Магазины у нас полны продуктов, одежды, обуви и т.д. Дорого правда". Усюды адна радасць.

Ішоў 15-ы дзень з моманту падпісання ў Маскве дагавора аб саюзе Беларусі і Расіі. Успомніў бядотнае становішча большасці майго народа, глядзеў на пустыя палі Смаленшчыны, думаў з горыччу: два жабракі збіраюцца разам жыць — што гэта кожнаму з іх дасць?..

Першы раз у жыцці ехаў я па рускай зямлі. І, вядома ж, гаварыў па-руску, пры гэтым стараўся мякка вымаўляць гукі р, ч, щ. І як жа я здзівіўся, калі, не паспеўшы сказаць некалькі слоў, пачуў ад той жа бабкі-пенсіянеркі:

— А вы не рускі.

— Што, чуваць?

— Канешне, чуваць, — і яна ветла ўсміхнулася.

Мільганула: навошта ж у нас амаль паўсюдна гавораць па-руску, пачынаючы ад калгаснага брыгадзіра і канчаючы міністрамі? Ды ніякай рускай гаворкі няма: проста ўжываюць рускія словы і вымаўляюць іх па-беларуску, свядома крыўдзяць свае душы, сілком уцягваюць артыкуляцыйны апарат у нязвыклую і цяжкую работу.

На зямлі тысячы розных моў. Ні лепшых, ні горшых сярод іх не існуе. Кожная — неацэнны скарб таго народа, які на ёй гаворыць, піша, спявае. Чым большай колькасцю моў валодаеш, тым большыя магчымасці адкрываюцца для спасціжэння свету і самога сябе.

Беларуская і руская мовы... Без іх не ўяўляю сябе. Праўда, іхняе прызначэнне не аднолькавае. Руская служыць больш для знешніх зносін: на абсягах былога Саюза яна дапамагае мне разумець іншых людзей. А беларуская — у маім паўсядзённым ужытку. І самае галоўнае — я на ёй думаю. Думаю заўсёды, усюды, пры збегу любых абставін. Яна, так бы мовіць, перш за ўсё для "ўнутранага карыстання".

Хіба не на матулінай мове спяваем мы калыханкі сваім дзеткам? Ці незразумела, што ў хвіліны незвычайнага ўздыму пачуццяў, выкліканых квітнеючымі садамі ці блакітнымі агеньчыкамі валошак у жыце, салаўінымі спевамі ці залатымі хвалямі даспяваючых хлябоў, вырвуцца з душы словы ўдзячнасці Богу менавіта на мове працавітых і мудрых прашчураў?

Калі ж здараецца быць за межамі сваёй Айчыны, з годнасцю, але без фанабэрыі, гавару:

— Я — беларус, я — з Беларусі!

І бясконца рады, калі прадстаўнікі другіх народаў, пачуўшы з маіх вуснаў беларускую мову, выказваюць ёй шчырую пашану.

...У горадзе Сафонава я адшукаў патрэбны мне дом і кватэру, але на мой званок ніхто не адчыніў дзвярэй. Выйшаў з дома на двор, запытаўся ў людзей, што сядзелі на лаўцы, дзе іхні сусед. Адказалі:

— Ён пайшаў на вакзал сустракаць свайго сябра з Беларусі, з якім быў разам у Германіі.

І тут жа ўсе ў адзін голас:

— Дык вунь жа ён ідзе, вінь, у шапцы і плашчы!

Я заспяшаўся насустрач. Нейкае імгненне мы стаялі моўчкі, гледзячы адзін аднаму ў вочы. Пётр значна вышэй мяне ростам, падцягнуты, худаваты, амаль лысы. Я сіліўся прыгадаць дзевятнаццацігадовага Пецю і не мог. Перада мною стаяў чужы чалавек. І толькі вочы... на мяне глядзелі чорныя, поўныя дабрыні і цяпла, вочы. Яны глядзелі з той невясёлай даўніны! Мы моцна абняліся, расцалаваліся. А з вуснаў усё злятала:

— Пеця, дарагі мой чалавек!..



— Аркадий, друг мой!..

...Сядзім за сталом: Пятро частуе мяне сваімі прыпасамі, а я яго дарамі беларускай зямлі. Нам ёсць аб чым пагаварыць. І мы гаварылі і гаварылі ўвесь вечар, прыхапіўшы і добрую частку ночы. Выпілі за сябе і за светлае будучае нашых краін.

Калі я перайшоў у гаворцы на мову гаспадара: Пётр сказаў:

— Гавары на сваёй мове.

— Чаму?

— Хачу чуць беларускую мову, радуючыся, што ў мяне, у маёй кватэры знаходзіцца сапраўдны беларус.

— Ты ж не зразумееш...

— Я ўсё разумею, можа, за выключэннем некаторых слоў, дык ты мне іх патлумачыш.

Гэта было для мяне і нечаканасцю, і адкрыццём.

...На адной з вечарынак, што адбывалася ў маёй вёсцы Юшкавічы, я стаў міжвольным сведкам гаворкі, якую вялі між сабою хлопец і дзяўчына. Зацікавіла тое, што маладыя людзі СПРАБАВАЛІ ГАВАРЫЦЬ НА РУСКАЙ МОВЕ, хаця валодалі ёй, як я кітайскай. Вучыўся я ў сёмым класе, на той час быў даволі пісьменны чалавек, у пэўнай меры знаў граматыку рускай мовы і мог на ёй нядрэнна размаўляць. Таму мог меркаваць, як яны валодаюць мовай братняга народа. Мне і сёння незразумела, чаму яны, сышоўшыся, не гаварылі так, як у паўсядзённым жыцці, на сваёй роднай мвое. Можа, у ёй не хапала слоў, каб выказаць свае думкі і пачуцці? Але ж на рускай яны наогул не маглі весці больш-менш зразумелую гутарку.

Не магу і цяпер уцяміць, чаму мой бацька, гаворачы з тым ці іншым чыноўнікам, які, вядома, лапатаў па-руску, шукаў у сваім моўным арсенале рускія словы. АДКУЛЬ УСЁ ГЭТА?!

Шматгадовыя назіранні паказалі, што нашы людзі абыякавыя і да сваёй мовы, і да сваёй гісторыі і культуры.

Апошні год маёй тэрміновай ваеннай службы прайшоў у Літве. І я ведаю не па чутках, як літоўцы ставіліся да ўсяго таго, што тычылася іх святынь. Скажы што-небудзь ім не ўхвальнае, напрыклад, пра іх мову, яны табе вочы выдзяруць.

А мы?..

— Як вы ставіцеся да таго, што рускай мове, як і нашай роднай, у Беларусі надаецца статус дзяржаўнай? — пытаўся я не ў аднаго вяскоўца.

— Ну і няхай, — адказаў.

А што яны маглі адказаць, зусім не разбіраючыся ў такіх пытаннях і не ведаючы па прычыне сваёй непісьменнасці, да чаго гэта прывядзе. На тым жа ўзроўні эмоцый і іхнія адносіны да саюза Беларусі і Расіі. Маўляў, няхай сабе і руская мова ў Беларусі будзе дзяржаўнай, няхай сабе і інтэграцыя з Расіяй — няхай! І — пойдуць займацца сваімі паўсядзённымі справамі, гаварыць адзін з адным на трасянцы.

А выснова горкая: у беларусаў ёсць пачуццё чалавечай годнасці, але НЯМА АБВОСТРАНАГА ПАЧУЦЦЯ ГОДНАСЦІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ.

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ,**
**Віцебская вобл.,**
**Пастаўскі раён,**
**в. Камаі**

РЭПЛІКА

# Ці тое сугучча?

Мы прывыклі да ўсяго. У нас можа здарацца што заўгодна. У нас можна бачыць на слупах вулічных ліхтароў, на павільёнах тралейбусных прыпынкаў, проста на сценах дамоў лістоўкі з кідкім, здалёк бачным пытаннем "Ты хочаш, каб Беларусь была тваёю?" і яшчэ больш бачным адказам: "Стань членам РНЕ і яна будзе тваёю!" У нас можа быць і такое: на праграму дзяржаўнага БТ "Сёння з вамі" могуць быць запрошаны — удумайцеся толькі! — нейкія прадстаўнікі нейкага міфічнага беларускага казацтва, укормленыя, пузатыя мужчыны ў пагонах, з якімісьці крыжамі на грудзях, і яны будуць самазадаволена разважаць пра нейкія традыцыі казацкага круга, пра ідэалы якогасьці "отечества" і "защиту этих идеалов", а пад канец па-блазенску дружна, хорам скандзіраваць нешта накшталт: "Белорусскому народу — любо!"

У нас можа быць усё. І тым не менш, невялікі допіс Леаніда Бруя, настаўніка з колішняга мястэчка Койданава, цяпер горада, які дасюль носіць імя жалезнага рыцара рэвалюцыі Дзяржынскага, змешчаны колькі часу таму ў "Белорусскай ниве", прымушае не толькі здзівіцца, але й задумацца. Допіс называецца "Случайны ли созвучия?" і забяспечаны рубрыкай "За пушкинской строкой". Пра што йдзе гаворка? "Почитатели Пушкина испытывают насущную потребность услышать его слово как слово совести и веры, услышать в этом слове смысл, обращенный к нам", — пачынае свой допіс настаўнік Л. Бруй. Што ж, пасыл — слушны. Час зараз такі, што ўратаваць нас зможа толькі духоўнасць, "высокая краса". І спадчына любога вялікага паэта ў гэтай справе — добры, надзейны грунт і апірышча. Руская інтэлігенцыя ўжо не першы год заклікае расіян ратавацца акурат Пушкіным. Украінцы ратуюцца Шаўчэнкам. Нам, беларусам, трэба і магчыма ратавацца вялікім Купалам. І беларускі настаўнік Л. Бруй, на добры лад, акурат у Купалы павінен быў бы шукаць адпаведныя нашаму часу сугуччы, пачуць у ягоным слове сэнс, звернуты да нас. Але ён шукае — у Пушкіна. Што ж, граху ў тым няма. Пушкін нам, беларусам, таксама не чужы. Больш за тое — блізкі, нават, бадай, родны. Можна і ў яго шукаць. Толькі — што? У гэтым, як кажуць, уся соль.

Л. Бруя непакоіць сённяшняя сітуацыя, якая склалася ў выніку распаду Савецкага Саюза. На яго думку, у выніку "получилось плохо". Зноў жа, мае права чалавек гэтак думаць? Вядома, мае. Хоць, таксама вядома, многія думаюць зусім інакш. Але, аказваецца, праблема, створаная нашымі палітыкамі, якую мы "болезненно решаем", выклікала неспакой і ў... Пушкіна. І ў пацвярджэнне гэтага Л. Бруй прыводзіць пушкінскія радкі:

***Славянские ль ручьи***
***сольются в русском море?***
***Оно ль иссякнет? Вот вопрос.***

Але, але, тут сапраўды ёсць пытанне. Правільней — узнікае пытанне, якое Л. Бруй вынес у загаловак свайго допісу: "Ці выпадковыя сугуччы?" Пытанне — узнікае, толькі ж зусім не таго сэнсу, як у койданаўскага таварыша Л. Бруя.

Далей — болей. Аказваецца, Пушкін, як прарок, "прадбачыў згубныя наступствы белавежскай змовы":

***Куда отдвинем строй твердынь?***
***За Буг, до Ворксклы, до Лимана?***
***За кем останется Волынь?***
***За кем наследие Богдана?***
***Признав мятежные права,***
***От нас отторгнется ль Литва?***
***Наш Киев дряхлый, златоглавый,***
***Сей пращур русских городов,***
***Сроднит ли с буйною Варшавой***
***Святыню всех своих гробов?***

Настаўнік Л. Бруй, працытаваўшы гэтыя радкі, заўважае, што "няма неабходнасці ў каментарыях да напісанага Пушкіным. Застаюцца толькі бесперапынныя недаўменне, боль — чаму ўсё гэта стала магчымым у нашай краіне?" Дык жа якраз і просіцца тут каментарый! Толькі не да напісанага Пушкіным, а да напісанага настаўнікам з беларускага мястэчка Койданава. Якая такая хваравітая фантазія падказала яму згадаць акурат гэтыя пушкінскія радкі? Ці дарэчы іх сёння згадваць наогул? Мо гэта акурат тое ў Пушкіна, пра што лепш памаўчаць, прынамсі, сёння, зараз, пакуль яшчэ не ўлёгся боль (і радасць!) нашага "вялікага сямейнага разводу" — распаду імперыі, "турмы народаў"? І пра якую такую краіну гаворыць Л. Бруй? Пра тую, у якой ён жыве і працуе? Дык нічога падобнага ў гэтай — нашай! — краіне няма! І быць не можа! Значыць, "господин учитель" гаворыць пра Расію? Гэта ёй, сённяшняй Расіі, баліць, за кім застанецца Валынь і спадчына Багдана, ці адарвецца ад яе Літва і г.д.?

Дык жа і гэта яшчэ кветачкі! Пушкін, паводле Л. Бруя, на ўсё даў вычарпальны і адназначны адказ. І паколькі "многім зараз не да чытання", дык Л. Бруй уносіць прапанову: "кожнаму з нас, ад рабочага да самага "верхняга" чыноўніка, запомніць хоць бы заключныя радкі оды "Вольнасць":

***Склонитесь первые главой***
***Под сень надежную Закона,***
***И станут вечной стражей трона***
***Народов вольность и покой.***

Вось так, шаноўныя спадары, грамадзяне Рэспублікі Беларусь. Вось якія сугуччы мы павінны шукаць у Пушкіна і, як настойліва рэкамендуе Л. Бруй, "кіравацца імі ў сваім жыцці".

Дзіўна ўсё гэта, вядома. І справа не ў тым, ці не толькі ў тым, што аўтар допісу сваімі ганебнымі, недарэчнымі сентэнцыямі зневажае памяць вялікага рускага паэта. Гэты бруд не прыстане да яго, і Пушкін як быў, гэтак і застанецца песняром свабоды і дружбы народаў. Найбольш засмучае і здзіўляе іншае. Чаму выхоўвае беларускіх дзяцей такі настаўнік? Што вучыць іх любіць і шанаваць? Патрыётамі якой краіны, якой зямлі хоча бачыць ён іх? Дальбог жа, ураджанне такое, што прызначаны ён настаўнічаць у Койданаве не Міністэрствам адукацыі незалежнай суверэннай Рэспублікі Беларусь, а Віленскай навучальнай акругай эпохі губернатара Мураўёва.

**М. Г.**

ру, папулярызуе яго. Таму я лічу, што калі аўтар — ці аўтары — не хочуць быць названымі, і мы не павінны браць на сябе такую функцыю.

М. Т. Наконт папулярнасці твора... Акалічнасці змяніліся. На занятках у ліцэі я чытаю тэкст "Сказа", і даводзіцца амаль на кожным радку спыняцца і каментаваць. Іншае пакаленне не ведае рэалій, апісаных у паэме, не ведае названых там прозвішчаў. Там, дзе нам смешна было, яны здзіўляюцца, а смяюцца зусім над іншым. А што далей будзе, калі нікога з герояў не застанецца сярод жывых?

Я. М. Пытанні, пастаўленыя вакол "Сказа пра Лысую гару", можна сфармуляваць так: па-першае, калектыўны гэта твор ці не, па-другое, трэба ці не трэба шукаць аўтара, хоча аўтар ці не хоча быць названым. Па-трэцяе, пытанне наконт структуры "Сказа" і аўтэнтычнасці асобных яго раздзелаў. І яшчэ пытанне, якое ўзнікла апошнім часам — ці напісаныя тым жа аўтарам іншыя "Сказы" — "Сказ пра лігу чыстакроўных", "Сказ пра ватнік", "Сказ пра Тутэмію" і гэтак далей? У мяне ёсць версія, што аўтарам большасці "Сказаў" з'яўляецца Ніл Гілевіч. І я не таму выказваў гэтую версію, што нешта чуў, нешта мне перадалі. А па стылёвым падабенстве.

М. Т. Шолахаў перапісваў "Ціхі Дон", падганяў пад першую версію. На маю думку, не можа з'яўляцца доказам аўтарства, што творы напісаныя ў той жа манеры, тыя ж вобразы выкарыстоўваюцца, псеўданімы. Калі выйшла "Блакадная кніга", на вокладцы стаяла: "А. Адамовіч. Д. Гранін". Гранін нават казаў Адамовічу: "Не ўказвайце маё прозвішча. Гэта журналістыка, гэта мне не вельмі цікава". Памёр Адамовіч, і ўжо выдаюць у Санкт-Пецярбургу гэтую кнігу з надпісам "Д. Гранін, А. Адамовіч". Гранін ужо зразумеў, што менавіта з гэтай кнігай ён увойдзе ў літаратуру, а ўсё індывідуальнае забудзецца.

Я. М. Паэмы "Сказ пра Лысую гару" і "Родныя дзеці" пісаліся паралельна, у прыблізна адзін час. Растлумачце такое супадзенне:

***Ты б паглядзеў, якія страты***
***Дзяржаве чыняць каршуны,***
***У дактары і кандыдаты***
***Пралазяць з крадзеным яны!***

**("Сказ пра Лысую гару")**

***Ён не упусціў той час, той даты,***
***Калі агулам сярод дня***
***У дактары і ў кандыдаты***
***Папёр вучоны серадняк.***

**("Родныя дзеці")**

Як асэнсаваць гэта? Што, Ніл Гілевіч краў у Ведзьмака ці Вядзьмак у Ніла Гілевіча?

М. Т. Цытаты паэтамі паэтаў — звычайная рэч.

Я. М. Я ўпэўнены, што аўтара трэба шукаць усё-ткі ў тэксце. Правесці параўнаўчы аналіз. Прааналізаваць сатыру і гумар Гілевіча, сатыру і гумар Аўрамчыка, грамадзянскую пазіцыю гэтых аўтараў. Я, напрыклад, чытаў і перачытваў і Аўрамчыка, і Гілевіча, і ў апошняга яшчэ ў пачатку пяцідзесятых, у той жа паэме "Пабоішча" былі дэталі, якія потым увайшлі ў "Сказ пра Лысую гару". І я лічу, што аўтар у "Сказа" адзін. А што тычыцца апошніх "Сказаў", напрыклад, "Пра лігу чыстакроўных", я не лічу, што гэта слабейшая рэч за "Сказ пра Лысую гару". А можа, у нечым нават мацнейшая. Але там няма эфекту нечаканасці, нейкага выбуху...

Д. Б. Вось-вось!

Я. М. "Сказ пра Лысую гару" — нечаканая рэч, якая здараецца, можа, раз у стагоддзе. Але я не пагаджуся, што гэта твор калектыўны. Калектыўнасць, можа, была ў выпрацоўцы ідэі. Але ж калі дапусціць, што гэта Аўрамчык так упэўнена выступаў у "Крыніцы"... Дарэчы, чаму ніхто не прыйшоў на "гарбату" з "Крыніцы"?

Л. Р. Напэўна, таму, што аднаго Ведзьмака яны ўжо адкрылі, а цяпер адкрываюць іншага... Леанід Галубовіч сказаў, што "Сказ" — не такі ўжо выдатны твор, каб быць прадметам дыскусіі, Валянцін Акудовіч лічыць, што аўтара ў гэтага твора ўвогуле не павінна быць...

Д. Б. А хто сказаў, што аўтар не хоча быць названы?

М. Т. Могуць быць розныя прычыны. Канстанцін Вераніцын пражыў доўгае жыццё, і шмат разоў мог прызнацца, што ён — аўтар "Тараса на Парнасе". Але ж не захацеў.

Д. Б. Лічыцца, што Кісялёў даказаў, што аўтар "Тараса на Парнасе" — Канстанцін Вераніцын. Але стопрацэнтнай упэўненасці, здаецца, усё ж няма.

Я. М. Можа быць, і сапраўды не варта настойваць на тым, каб аўтар "адкрываўся". Нават калі б мы і паставілі за мэту сёння дабіцца праўды, мы б яе не высветлілі. І калі б сюды прыйшоў Вядзьмак і сказаў: "Вось ён я", яму прыйшлося б даказваць гэта. І ён ужо можа нават і не даказаць, што гэта ён. Павінны быць вельмі пераканаўчыя доказы. Ведзьмака кожны ўяўляе па-свойму, як Бога.

Д. Б. Узровень апошніх згаданых паэм зусім не той, што ў "Сказа пра Лысую гару".

М. Т. Гэта тое самае, калі Даніэль Дэфо ўбачыў, што яго Рабінзон вельмі папулярны, і напісаў два працягі — "Рабінзон у Індыі", "Рабінзон у Кітаі"...

Д. Б. І гэтыя кнігі ніхто не ведае.

М. Т. Тое самае, што "Ціхі Дон" і "Паднятая цаліна" — класіка і сацрэалізм.

Л. Р. Мне перадалі з архіва-музея літаратуры і мастацтва цікавыя дакументы — лісты Ведзьмака Лысагорскага, адрасаваныя прэзідыуму Саюза пісьменнікаў Беларусі, адкрыты ліст "Вожыку" і ліст Максіму Танку, напісаныя 8 красавіка 1989 года. У прынцыпе, гэта вядомыя дакументы, яны друкаваліся, але варта звярнуць увагу на такую акалічнасць: аўтар сцвярджае, што ў кніжцы "Вожыка" надрукаваная не ўся паэма цалкам — "у "Сказе пра Лысую гару" 1537 радкоў, а ў кніжцы "Вожыка" надрукавана толькі 795 радкоў, пералічаныя раздзелы, з якіх складаецца паэма — І. Дзяльба, 2. Праблема, 3. Будаўніцтва, 4. Так і зажылі, 5. Мужчынскі страх, 6. Пудзілы, 7. Вялікі рух. Замест эпілога. Пасля аўтар нагадвае, што Вядзьмак-Лысагорскі — гэта падвойнае прозвішча, і імя яго — Францішак. І заслугоўвае ўвагі прыпіска: "Паколькі ў мэтах канспірацыі я па-ранейшаму не магу паставіць свой уласнаручны подпіс, прашу лічыць ім шрыфт гэтай машынкі і другі экземпляр заявы прэзідыуму Саюза пісьменнікаў БССР, а таксама заявы Беларускаму аддзяленню ўсесаюзнага агенцтва па аўтарскіх правах і адкрытага ліста "Вожыку", якія замест дакументаў, на выпадак узбуджэння судовай справы па ўсіх выдавецкіх і ганарарных пытаннях, што могуць узнікнуць у далейшым, здаю на захаванне ў сейф ламбарда". Між тым, існуе легенда, што машынка, на якой Вядзьмак-Лысагорскі друкаваў свой "Сказ", патопленая ў Свіслачы ў прысутнасці Уладзіміра Караткевіча.

М. Т. Па аўтарстве "Ціхага Дона" створана мноства кніг, мноства даследаванняў. А даказаць нельга. Цяпер гавораць, што ў архівах знайшлі рукапіс "Ціхага Дона", і справа скончана. Але яна ж не скончаная!

Д. Б. Можна падрабіць любы рукапіс.

М. Т. І я не ўяўляю, як можна даказаць сваё аўтарства. Нехта ў "Крыніцы" заяўляў, што ў КДБ прафесіяналы, якія са сваімі адмысловымі метадамі лёгка маглі б адкрыць аўтарства яшчэ тады. Але ж *яны* звярнуліся да нас, да спецыялістаў. Значыць, не так ужо гэта магчыма. *Яны* ведаюць толькі тое, што мы самі на сябе нагаворым.

Д. Б. *Яны* маглі вызначаць толькі ўскосна — напрыклад, па машынцы...

М. Т. У сямідзесятыя гады я друкаваў на машынцы рукапісы касмолага В. К. Зайцава, ён пасылаў іх за мяжу пад псеўданімам. Першы экземпляр ён пры мне спальваў, таксама спальваў ленту і капірку, і здагадацца, на якой машынцы надрукавалі тэкст, было цяжка. Мусіць, трэба дзейнічаць па метадзе, які прапаноўвае Валянцін Тарас, ісці па шляху адмаўлення. Я не мог гэта напісаць, бо я гараджанін і не ведаю рэалій, якія згадваюцца ў паэме, і гэтак далей. Напрыклад, не мог гэта напісаць чалавек, які не здольны да розыгрышаў, карнавальнасці. У шасцідзесятыя гады маці Алеся Адамовіча расказвала: аднойчы Мікола Аўрамчык быў у іх у гасцях і чытаў паэму супраць культу Сталіна. І яна была такая вясёлая, што слухачы падалі пад стол. Я здзіўлены, што гэтая паэма не надрукаваная. Але, значыць, гэты чалавек здатны быў на карнавальны гумар.

Я. С. Недзе я чытаў, што, каб дабрацца да ісціны, трэба адказаць на пытанні: чаму яно робіцца тады, калі яно робіцца, чаму яно робіцца тым, кім яно робіцца, і чаму яно ўвогуле робіцца?

Д. Б. А калі прысутнічае нечаканасць?

Я. С. Нечаканасць — гэта цуд. А цудаў, як вядома, не бывае.

М. Т. У літаратуры цуд здараецца вельмі часта. Бывае, што пасрэдны паэт раптам напіша выдатны твор.

Я. С. У маім першым допісе ў "ЛіМ" быў апушчаны абзац, што аўтар "Сказа" не раскрыты яшчэ і таму, што многія літаратары хочуць пагрэцца ў яго славе.

Д. Б. Ну так ужо і многія.

М. Т. Ну мы ж ужо грэемся — падчас гэтай размовы.

Я. С. Не разумею высноў некаторых крытыкаў. Пішуць: "Аўтар "Сказа пра Лысую гару" абавязкова павінен быў жыць і будавацца там". Калі ён на Лысай гары не будаваўся, значыць, ён гэтага твора напісаць не мог. І гэта кажуць паэты, якія павінны ведаць сілу творчай фантазіі! Калі мы даведаемся, што Кучар сказаў, што ён толькі Віталю Вольскаму прызнаўся, адкуль браў угнаенне, значыць, аўтар — Вольскі? Калі Вялюгін жыў насупраць цырка, значыць аўтар — Вялюгін, бо ён бачыў, як Кучар "браў угнаенне з-пад слана"? Хіба ж гэта падыход? Я быў на адным з выступленняў Ніла Гілевіча, і той расказваў, што падзеі, якія апісаны ў паэме "Пабоішча", ён сам не назіраў. Яму проста пераказалі. А як рэалістычна напісаў! Поўнае ўражанне, што ён прысутнічаў у гушчы падзей.

М. Т. Гэта нармальны падыход. Калі б Быкаў на вайне не быў, што б ён пра яе напісаў? Вунь Дудараў, не быўшы на вайне, стварыў "Радавыя" — і адразу адчулася штучнасць. Быкаў быў напісаў дзве партызанскія аповесці — і адразу ў іх пачалі знаходзіць памылкі. Напрыклад, калі бутэльку затыкаюць газетай — тады гэта было ўсё роўна што сторублёўкай.

Я. С. Я чытаю кнігі нямецкага пісьменніка Мая, які ніколі не перакладаўся ў нас. Ён апісвае пустыні, джунглі, але сам і разу там не быў. Так што "не трэба хутара шукаць". Той жа Бураўкін кажа, што "Сказ" — гэта казка. А калі пытаюцца ў яго, ці вы напісалі, таксама маўчыць. На маю думку, на Ведзьмака многія пісьменнікі пакрыўдзіліся, і цяпер не хацелі б, каб яму дасталіся лаўры. Але галоўнае — узяцца за гэтую праблему. Вось сёння мы гаворым сур'ёзна ўжо пра двух кандыдатаў на аўтарства. А гэта ўжо дазваляе выбіраць. Можа, яны бралі ўдзел у напісанні ўдвух. Не ведаю. Але можна сцвярджаць на падставе ўсяго сказанага, што Гілевіч мог быць аўтарам "Сказа пра Лысую гару". Мяркуючы па паэзіі Аўрамчыка, я не магу прыйсці да такой адназначнай высновы.

М. Т. Я згодны, што пасля асноўнага тэксту ідуць нейкія перайманні. Тады можна лічыць, што мае месца калектыўная творчасць. Але адзін з аўтараў тэксту заяўляе, што ён напісаў 1537 радкоў, і ні пра якую калектыўнасць, ён не гаворыць. Другі момант. Я не магу сцвярджаць, што аўтар "Сказа" — Мікола Аўрамчык. Але што тычыцца Гілевіча, я вельмі люблю яго сатыру, гумар, але мне здаецца, ён вельмі пафасны, вельмі гнеўны. Усё дзеліць на чорнае і белае: гэта мяшчанства, гэта падзвіжнікі. Мне здаецца, што ў паэме якраз няма гэтага падзелу. Я схіляюся да версіі, якую выказвае Уладзімір Конан — што гэта чыста карнавальная літаратура. Пацяшальныя, забаўляльныя раздзелы іграюць там сваю ролю. Хто ведае канкрэтыку, яго гэта вельмі кранае, а не толькі патрыятычныя маналогі "за партыю", якая час ад часу вяртала ўсіх, куды трэба... Шлях супастаўленняў магчымы, але... Параўноўвалі рукапіс Ф. Крукава і тэкст "Ціхага Дона" і знайшлі каля двухсот супадзенняў. І ўсё роўна пытанне павісла ў паветры. Хто аўтар? Мне здаецца, гэта праблема будзе вечнай для літаратуразнаўства.

Я. М. У верша ёсць... не ведаю, як назваць — аўра, душа? Гілевіч пісаў пра "паходку верша". Не ведаю, наколькі дакладна я яе адчуваю, але ў "Сказе пра Лысую гару" я адчуваю аўру паэзіі Гілевіча. Дарэчы, вядомыя словы Гілевіча пра тое, што "здзіўляе, што аўтарам паэмы называюць паэта, чый светапогляд, інтэлект, грамадзянская пазіцыя, кола жыццёвых і творчых клопатаў вельмі далёкія ад вядомага ў мастацкім свеце Ведзьмака Лысагорскага. Ёсць тое, чаго не набыць — раптам ці паступова, як нельга змяніць колер вачэй. Маю на ўвазе паходку верша, рытміку, інтанацыйнае дыханне, тое, што з'яўляецца прыродным, арганічным, калі хочаце — метафізічным".

М. Т. Ніл Гілевіч не здольны на гульню. Не тое, як Барадулін, што казаў: "Я куляўся ў маладосці ў словах". "Сказ пра Лысую гару" — карнавальная паэма, а не проста сатыра, гнеў.

Я. М. А вы чыталі яго раннія паэмы? Там жа якраз карнавальнасць!

Д. Б. У "Сказе" ёсць месца пра тое, як парыліся ў лазні Куляшоў і Танк, а Гілевіч мераў па іх свой рост. Гілевіч пра сябе не мог такога напісаць. Думаю, гэтую частку ён не пісаў.

Я. М. Дарэчы, у кананічнай версіі "Сказа" гэты эпізод знік.

Л. Р. І для маскіроўкі аўтарства цалкам мог быць напісаны.

Д. Б. Акрамя таго, вядома, фантазія адыгрывае вялікую ролю ў літаратуры, але ў "Сказе пра Лысую гару" столькі канкрэтных рэалій, што чалавек, які не варыўся ў тым саку, не мог пра ўсё гэта напісаць з такой дакладнасцю.

Л. Р. Карнавальнасць, містыфікатарскі пачатак твора настолькі моцны, што мае працяг і на сённяшні дзень. Дарэчы будзе ўспомніць, як пачалася сённяшняя "гарбата" і лімаўская дыскусія. Два гады таму перад Новым годам у "ЛіМ" была даслана пародыя на нашую "гарбату", падпісаная Ведзьмаком Нелысагорскім, які хоць віртуальна захацеў папрысутнічаць на "гарбаце". Спадар Яўген Стасевіч прыняў гэтую рэч за "чыстую манету" і пачаў слаць у "ЛіМ" допісы, абурацца тым, што мы нагаварылі на парадыйнай "гарбаце", заступіўся за сапраўднага Ведзьмака.

Я. С. Я так і падумаў, што гэта праўда.

Л. Р. Мне вельмі цікава, хто напісаў гэтую пародыю. Казалі нават, што я сама напісала. Розныя ёсць меркаванні, у мяне, дарэчы, таксама. Калі карыстацца згаданым сёння метадам адлічэння, аўтар пародыі "Па чыёй галаве сумуе лаўр" з ліку тых, хто не бываў на нашых "гарбатах". Іначай бы ён скарыстаў некаторыя рэаліі.

М. Т. Пародыя атрымалася цікавая.

Л. Р. Але ёсць і такая акалічнасць у дачыненні да "Сказа пра Лысую гару", пра якую мы яшчэ не гаварылі. Існуе меркаванне, што гэты твор нясе ў сабе і моцны разбуральны імпульс для беларускай адраджэнскай справы. Калі выйшла гэтая вожыкаўская кніжачка, народ сапраўды чытаў яе ў метро, у аўтобусах... І не лепшае меркаванне пра беларускіх пісьменнікаў, выведзеных у творы, у яго складвалася.

Д. Б. Нездарма ж за гэтую паэму нікога не пасадзілі. Палічылі — калі пісьменнікі самі над сабой смяюцца, дык хай і народ над імі пасмяецца.

М. Т. Якраз народу не хапала гэтага ўмення глянуць на сябе і пасмяяцца з сябе.

Л. Р. Твор зрабіўся сапраўды народным, але матэрыял, на якім ён створаны, вельмі элітарны.

Я. С. Калі я быў у інстытуце літаратуры, папытаўся, ці можна прапусціць твор праз камп'ютэр, каб вызначыць аўтара. Мне адказалі, што ў прынцыпе, можна.

М. Т. У дачыненні да мастацкага твора тэхніка не спрацоўвае. Фізікі сядзяць са сваімі прыборамі вакол паміраючага чалавека і не могуць вызначыць, як і куды адлятае з яго душа. Уся навука тут бяссільная.

Я. С. А як жа амерыканская сістэма адсочвання тэлефонных перамоў, якая па нейкіх кантрольных словах з мільёнаў гаворак выбірае тыя, дзе гаворыцца пра наркотыкі, зброю і гэтак далей?

М. Т. І кантрольныя словы, і кантрольныя атамы — гэта з іншай сферы. А творчасць — ад Бога. Герой Маркеса хацеў сфатаграфаваць Бога, але яму гэта не ўдалося.

Д. Б. У камп'ютэр можна закласці любую праграму — напрыклад, параўнаць, як часта коскі сустракаюцца... І па гэтым параметры вызначаць аўтара? Праграма, закладзеная чалавекам, абмяжоўвае магчымасць сапраўднага даследавання.

М. Т. Словы застаюцца на плёнцы, а дух знікае.

Я. С. А сапраўды, ці хоча Вядзьмак быць адкрытым? Хацелася б пачуць адказ на гэтае пытанне.

Л. Р. А давайце патэлефануем тым, каго згадвалі сёння ў якасці гіпатэтычных аўтараў, і спытаем іх саміх. Толькі разам сфармулюем пытанне.

М. Т. Думаю, пытацца трэба, ці не пярэчыць паэт, каб у нашай дыскусіі яго асоба разглядалася ў якасці гіпатэтычнага аўтара "Сказа пра Лысую гару".

*Задума была здзейснена. Мікола Аўрамчык прысутнічаў дома, Ніла Гілевіча дома, на жаль, не было, і размова з ім адбылася трохі пазней, калі гарбата была выпіта. Размовы не стэнаграфаваліся, таму прапаноўваецца толькі іх пераказ.*

Мікола АЎРАМЧЫК сказаў, што ён не супраць таго, каб пра яго творчасць гаварылі на "гарбаце". На думку Міколы Якаўлевіча, пра аўтарства "Сказа пра Лысую гару" выказана ўжо столькі меркаванняў, што хутка пачнуць пісаць артыкулы неўрапатолагі і псіхіятры. А аўтара трэба вызначаць на падставе канкрэтнага аналізу тэксту, аналізу пэўных стылёвых асаблівасцяў, слоў, выразаў. Разгадка — у тэксце самога твора. Ну а наконт уласнага дачынення да напісання "Сказа" Мікола Якаўлевіч даў вельмі ўхільны адказ, накшталт таго, што калі і мае дачыненне, дык ускоснае. І пажадаў даследчыкам "Сказа" плёну ў іх працы і хутчэйшага вызначэння аўтара.

Ніл ГІЛЕВІЧ сказаў, што гэтае пытанне яму задавалі многія, і ён не можа адказаць на яго. Паэт заўважыў, што многія ўжо прызнаваліся, што напісалі "Сказ пра Лысую гару"... Чалавек пятнаццаць. Што, іх прызнанні не задавальняюць? І павінен шаснаццаты аб'явіцца? Вядома, людзям хочацца ведаць, хто аўтар "Сказа"... Гэты твор у свой час адыграў вялікую ролю — паказаў, што неабавязкова пісаць для друку, што і ў Беларусі вольная, непадцэнзурная літаратура была. На адной з лімаўскіх "гарбатаў" беларускіх пісьменнікаў папракалі, што яны ніколі не пісалі "ў стол"... Але ж "Сказ" — абвяржэнне гэтай высновы, яго не друкавалі дваццаць гадоў. Ну а цяпер, праз трыццаць гадоў пасля напісання, як аўтару прызнацца? Чаму не прызнаваўся раней? Алег Лойка ў "Родным слове" гаворыць жа, што каб напісаў Гілевіч, дык даўно б прызнаўся... Да таго ж, сказаў Ніл Сымонавіч, ён не раіў бы рабіць высновы, што аўтар "Сказа" — Ніл Гілевіч, бо некаторыя будуць засмучаны гэтым і адразу ж пачнуць выказваць сумненні ў мастацкай вартасці твора, якому на сёння дадзена незвычайна высокая ацэнка. Ніл Сымонавіч заўважыў, што, на яго думку, літаратуразнаўцы дасюль сур'ёзна не займаліся вывучэннем "Сказа", вызначэннем і яго ролі і месца ў літаратурным працэсе, і яго аўтара. Разгадку трэба шукаць у самім тэксце. Ну але добра і тое, што пра гэты твор зноў гавораць, прыцягваюць да яго ўвагу. На развітанне Ніл Сымонавіч пажадаў "гарбаце" плённай працы і выказаў спадзеў, што Ведзьмака ўсё-ткі знойдуць.

*Напрыканцы ўдзельнікі гаворкі паспрабавалі сфармуляваць нейкае рэзюме.*

Я. С. Я перакананы, што першым адказ знойдзе Янусь Малец — ён сабраў больш за ўсіх матэрыялу па гэтым пытанні.

М. Т. Што ж, калі вы збераце дзвесце прыкладаў супадзенняў, гэта ўжо будзе доказ.

Я. М. Сапраўды, я лічу, разгадка — у тэксце. Напрыклад, радкі, што гэтую паэму напісаў "ні аксакал, ні саксаул"... Хіба тут не зашыфравана імя "Ніл"? А ключ да расшыфроўкі — у тым жа тэксце: "Ставер — ста-ры, іначай, вер-шаплёт". Ёсць і яшчэ загадкавыя месцы. Але, галоўнае, трэба скрупулёзна даследаваць структуру мовы і стылю.

Д. Б. Мая думка ранейшая — розныя часткі твора пісаліся рознымі аўтарамі.

М. Т. Часам пісьменнік можа напісаць твор, які ад яго ніхто не чакаў і падобнага якому ён, можа, ніколі больш не напіша. Уладзімір Бутрамееў напісаў раман "Карона Вялікага Княства", за які яго ў Расіі вылучылі на прэмію Букера. Там такі карнавал, такая раскоша! Я сустрэўся з Бутрамеевым і запытаўся, як яму ўдалося напісаць такую рэч. Ён адказаў, што на адным дыханні — за месяц, нікуды не выходзячы з дому, нават гарэлкі не піў. Так што, можа быць, сапраўдны Вядзьмак сядзіць, пасмейваецца, і ніхто на яго нават не падумае.

Я. М. Усё роўна калі-небудзь з архіваў усплыве нечы дзённік ці ліст, у якім адкрыецца таямніца.

Д. Б. Нібыта ў дзённіку Барыса Сачанкі ёсць разгадка.

М. Т. Гэтая праблема пераходзіць на наступнае пакаленне. Мая дачка, студэнтка філфака, даведаўшыся, куды я іду, перапыталася — "Ну і што ты там будзеш даказваць? Хто аўтар?" Не дай Бог, мы вынесем тут прыгавор і закрыем тэму. Трэба ж, каб і маладзейшым засталося пра што пагаварыць.

Я. М. Я ў якасці рэзюме магу прапанаваць свой экспромт:

***Не дрыжы, мая рука,***
***Не знайшлі мы Ведзьмака.***
***Але весела на сэрцы,***
***Бо была размова з перцам.***

М. Т. А я хацеў бы завяршыць словамі Максіма Танка з паэмы "Люцыян Таполя": "Дзе ты знойдзеш тое дрэва, ад якога шум лясны пачаўся?" У лесе ад дрэва да дрэва гук адбіваецца, музыка гучыць, і нам досыць гэтага.

Л. Р. Ну а мне шкада міфа... І я думаю, што ў наш час павінен выспець новы Вядзьмак, які напіша "Быў час, быў век, была эпоха..."

*Размова за гарбатай скончылася... Але не скончылася размова пра галоўную містыфікацыю дваццатага стагоддзя ў айчыннай літаратуры. Запрашаем вас, шаноўныя чытачы, далучыцца да яе. Напэўна, некаторыя думкі, выказаныя за гарбатай, падштурхнуць вас да ўласных здагадак і высноў. Чакаем вашых допісаў!*

*(Працяг тэмы на стар. 14—15)*





## "Шамдзін"

Чарговая кніга вядомага пісьменніка Ганада Чарказяна, жыццё якой дало выдавецтва "Мастацкая літаратура" пры ўдзеле Літаратурна-мастацкага фонду "Нёман", увабрала ў свае старонкі і навелы, лірыку, а ў гэтых жанрах Г. Чарказян адчувае сябе ўпэўнена, аб чым засведчыў і ранейшымі кнігамі і публікацыямі ў перыёдыцы. Але новая, названая па аднайменнай навеле "Шамдзін", вылучаецца тым, што ў ёй асабліва адчувальны матывы Бацькаўшчыны. А для курдскага народа, прадстаўніком якога з'яўляецца пісьменнік, гэтае паняцце набывае тым больш значны і глыбокі сэнс. Гістарычна склалася так, што курды вымушаны жыць ці не па ўсім свеце, шукаючы для сябе прыстанішча, дзе б удалося



адчуваць сябе годна і ўпэўнена. Адным, як і самому Г. Чарказяну, у такіх пошуках шчасціць і яны знаходзяць другую Радзіму, пастаянна памятаючы пра першую, калі можна сказаць, кроўную. Іншыя, а іх, на жаль, большасць, так і застаюцца выгнаннікамі. І тым ліку і па духу. У сувязі з гэтым навела "Шамдзін" і набывае асаблівае гучанне. Яна пра тое, як чалавек павінен, не зважаючы ні на што, заставацца ўдзячным зямлі, якая нарадзіла яго. Яна пра пошукі шчасця і пра адмаўленне зла, насілля ў любых яго праяўленнях. А яшчэ яна... Тут якраз выпадак, што немагчыма праблематыку твора звесці да нейкіх пэўных, няхай само па сабе і значных, праблем.

У навеле "Шамдзін" паўстае жыццё курдскага народа ва ўсёй яго складанасці і шматмернасці. А падаецца яно праз лёс галоўнага героя, імя якога і пакладзена ў назву твора. Курд Аўдала доўга марыў аб нараджэнні сына, з адным спадзяваннем жыў — "каб было каму род прадоўжыць".

Паняцце "прадаўжэнне роду" ў творы набывае больш шырокае значэнне, чым прывязанасць да канкрэтных рэалій. У дадзеным выпадку маецца на ўвазе і прадаўжэнне на зямлі курдскага роду. Г. Чарказян піша з думкай аб тым, каб "не разбурыўся падмурак, на якім стаіць дом духу" чалавека. А калі будзе моцным гэты падмурак, вытрымае і народ у цэлым. І не толькі курдскі, а і іншыя народы. І невыпадкова Аўдала кожнай раніцы, стаўшы на калені тварам да сонца, паўтараў малітву: "Божа, спачатку дапамажы сямідзесяці двум народам свету, а потым ужо мне. Пашлі сына".

Курд Аўдала разумеў таго, чаго не могуць зразумець іншыя. І многія беларусы — у прыватнасці. Сапраўднае шчасце магчыма пры ўмове, калі шчаслівы і твой народ, а не толькі ты сам. Ды і ўся кніга Г. Чарказяна, не зважаючы, якія гэта творы — навелы ці вершы — пра тое, як важна чалавеку мець на зямлі свой дом. Дом, як і штодзённае прыстанішча. І дом, як дзяржаву ўсяго народа. Таму і такая відавочная ў творах нацыянальная падсветка.

Але чытаеш Г. Чарказяна і пастаянна ловіш сябе на думцы, што гэта напісана і аўтарам, які шмат у чым мысліць і па-беларуску. І прычынай не толькі тое, што творы былі напісаны на курдскай мове, а пераўвасоблены на беларускую такім знаўцам слова, як народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін. Паколькі беларускае асяроддзе для Г. Чарказяна даўно стала сваім, ён пачувае ўжо сябе не столькі курдам сярод беларусаў, а як беларус сярод беларусаў. І, для прыкладу, калі б чытаў верш "Сустрэча" эпіграфам да якога ўзяты радкі М. Багдановіча "У родным краі ёсць крыніца // Жывой вады", не ведючы прозвішча аўтара, лёгка падумаў бы, што твор належыць пяру каго-небудзь з беларускіх паэтаў, якому "захацела прысніцца // Тая, // Што ў бацькоўскай старане // Са сцюдзёнай вадой // Крыніца": "І ўзяў я сябе // За руку, малога, // Адвёў у сон, // У маленства зноў. // Далей ад маланак, // Ад перуноў, // Адтуль, //, Дзе на кожным кроку // Трывога..."

Не выклікае сумнення, што кніга "Шамдзін", як і ўся творчасць Г. Чарказяна, належыць і беларускай літаратуры, на ніве якой ён працуе мэтанакіравана і ўпэўнена.

Юрась ВАЙСЁНАК

# ПАЭЗІЯ

## Яўген ХВАЛЕЙ



### У шынку "Крутагор'е" ў Дзяржынску

*Быў і я ў шынку "Крутагор'е",*
*Дзе тутэйшыя мужыкі*
*Штосьці п'юць —*
*ад шчасця ці з гора, —*
*Ажно ходзяць у іх жаўлакі.*

*Далучыўся і я.*
*Прычасціўся...*
*На карціну зірнуў —*
*бы экран,*
*Што мінуўшчыну асвяціла, —*
*На карціне —*
*бясслаўны Кайдан,*

*Бітва тая,*
*татараў навала...*
*Мо да сёння таму і жывём,*
*Што арда нас не зваявала,*
*І жывём вось,*
*і нешта п'ём...*

*І сядзеў я ў шынку з мужыкамі,*
*І цягнуў пад карцінай піва,*
*І здавалася,*
*што мы самі*
*З той карціны,*
*дзе Кайдана*
*Мы адолеем вось-вось...*

### Барздзі

Ф.

*Не заблудзі,*
*Не забрыдзі —*
*Чуецца ў слове таемным*
*Барздзі.*
*Прыналібоцкі бор векавы:*
*Сосны ў зеніце —*
*Узмах галавы.*
*Міма палянак,*
*Між шоўкавых траў*
*Нехта вядзе мяне,*
*Быццам у храм.*
*Позірку страшна,*
*А сэрцу — так файна.*
*Ведаю:*
*Там разгадаю я тайну.*
*І забрыду я,*
*І заблуджуся,*
*З тайнай сваёй*
*Назаўжды застануся...*
*Ёю абвергну*
*Сэнс слова*
*Барздзі —*
*Не заблудзі,*
*Не забрыдзі...*

### Валмянка

*Між Валмянкай і Сулой*
*Мы спаткаліся з табой.*
*Мацыёлай пахнуў ліпень,*
*Пчолы зумкалі у ліпах...*
*— Будзь, Валмянка,*
*Мне каханай, —*
*Я прашу, —*
*Бо раўнівая Сула*
*Да каханага сплыла,*
*Нёмна — сіняга асілка...*

*А Валмянка б'ецца жылкай,*
*Вабіць станам за кустамі,*
*Вабіць страснаю паставай...*

*Ах, Валмяначка, Валмянка,*
*Не рачулка — а прыманка...*

●

*Пазалаціла восень Пакровы...*
*Лісце на голлі —*
*накідка Божае маці:*
*Ты ахавай яе, век мой суровы,*
*Як ахавай маю маці у хаце.*

*Я і сам пад накідкаю гэтай*
*Жыць ящчэ ў свеце белым ахвочы:*
*То святлею,*
*бы ў садзе асеннім ранеты,*
*То хмурнею,*
*як возера ціхае ўночы.*

●

*Каля яблынь у цвеце*
*ў Бярэжы*

## Анатоль МАЙСЕЕНКА



### Сірата

Памяці маці Ганны Трафімаўны

*Якая страшная рэклама! —*
*Хто з сэрцам, міма не прайдзі:*
*Сіроткі-дзеці просяць: "Мама,*
*Хутчэй знайдзі мяне, знайдзі!"*

*Магутны Божа, дай мне сілы*
*Перацярпець той боль і жах.*
*— Знайдзі! — зноў шэпча хлопчык мілы —*
*І гэта пры жывых бацьках!*

*Даўно нікому з нас не дзіва*
*Сваяя сям'я, сваяя радня.*
*...Ваўчыца вунь глядзіць раўніва,*
*Сваё вылізвае шчаня.*

*Не будзе мець яна адхлання.*
*Інстынкт бацькоўства ў звера свят.*
*І воўк спяшыць на паляванне*
*І навучае ваўчанят.*

*Дык гэта воўк ці тая ж псіна! —*
*Яны з прыродаю ў ладу.*
*А ты сваё дзіцяя, жанчына,*
*Наўмысна кінула ў бяду.*

*Крадком — на сметнік,*
*Ці ў прытулак*
*Здала сынка або дачку...*
*Ах, як самотна, як наўтульна*
*На свеце жыць мне, бедаку!*

*...Я родам сам з халоднай хаткі,*
*Маленства ў голадзе сплыло.*
*Але тады былі ў нас маткі,*
*Хаця бацькоў і не было.*

*Калі вячэрняю парою*
*Ў палон дзяцей збіралі сны,*
*Праз столь і дах над галавою*
*Былі мне зорачкі відны.*

*Мядовы пах, гарачы ліпень —*
*Нас промнем грэла і пякло.*
*Было адно нязручна: ў лівень*
*Праз столь, як з рэшата, цякло.*

*Мы адляцім адсюль у вырай,*
*Калі на тое прыйдзе час.*
*Тут мама, я, сястры чатыры,*
*І мама думае пра нас.*

*Тады ў калгас, як на Галгофу,*
*Адно хадзілі па мазоль.*
*А клапаціліся ў "эпоху"*
*Пра маму толькі золь і боль!*

*І ўсе вучыліся заўзята,*
*Навуцы той няма цаны.*
*Чакалі бацьку мы, салдата,*
*Ды не вярнуўся ён з вайны.*

*А бацька стаў бы мне, як сонца,*
*Ў маіх сяброў такі ж настрой.*
*Я бачыў: з кожнага ваконца*
*Глядзіць бяда і неспакой.*

*І я, не лепшы і не горшы,*
*Над кніжкай пры газнічцы слеп.*
*А во, з Дуброўны ці то з Воршы*
*Паўзу (ізноў хадзіў па хлеб).*

*Нам да Дуброўны — васемнаццаць,*
*Ну а да Воршы — дваццаць пяць.*
*Куды мне ранкам лепш падацца?*
*Туды, дзе ў чэргах менш стаяць.*

*У горад ідучы паволі,*
*Не азіраўся па баках,*
*Бо добра ведаў, злая доля*
*Зноў па маіх бяжыць слядах.*

*...Ці ж мне забыць: сястрыца Ніна*
*Парой вясновай з Воршы йшла.*
*І той калдобістай пуцінай*
*Падсумак кірзавы знайшла.*

*Там грошы і акрэдытывы,*
*Пячатка — ўлады верны знак.*
*Сляпы выпадак зноў злаславы*
*Нас выпрабоўвае няўзнак.*

*З гнілое бульбы еў прысмакі,*
*Пяклі аладкі з шчаўлюком...*
*Камусьці сумка дасца ў знакі,*
*А нас адорыць малаком...*

*Перш купім мы сабе карову, —*
*Хоць плач ад радасці наўзрыд!*
*Спыняе мама нас сурова:*
*— Чужой бядой не будзеш сыт!*

*Твой светлы воблік не забыты,*
*Я помню, мама, той урок!*
*З табой звяраю,*
*Часта біты,*
*Свой кожны ўздых,*
*Свой кожны крок!*

*...Чужой раз долі пазайздросціў.*
*Няўжо свой грэх не адмаліў?..*
*У класе ў нас былі два Косці,*
*І ў кожнага з іх бацька быў.*

*Адзін быў конюх, ведаў справу,*
*Хто ж не любіў калі каня?*
*Другі больш думаў пра дзяржаву,*
*Бо ён — калгасны старшыня.*

*Аднойчы конюх без дазволу*
*Узяў каня прывезці дроў.*
*Старшынька ўведаў пра крамолу*
*І, як шалёны бык, зароў.*

*На ікрах падшмаргнуўшы гетры,*
*Ледзьве не крыкнуў чын: "Гарым!"*
*Як быццам хто украў паветра,*
*Якое ён лічыў сваім.*

*Гарэлка горкая і злая...*
*Бушуе кроў, гусцее зло.*
*Вось старшыня каня сядлае,*
*Ў кішэнь наган, гоп у сядло.*

*— Стой старшыня!*
*Угаманіся!*
*Чыё жыццё забраць гатоў?*
*З тым бедаком лепш размініся! —*
*У сне крычу праз даль гадоў.*

*...За што, Гасподзь, такая кара?*
*Як хлопцам далей побач жыць?*
*Адзін з бацькоў гніе на нарах,*
*Другі ў сырой зямлі ляжыць.*

*Тут, на Зямлі, мы ўсе сіроты.*
*І зрок у нас, як у крата.*
*Я без Айчыны, як пад плотам,*
*Сівагаловы сірата.*

*Наш лёс ідзе-брыдзе, начамі,*
*А шчасце дзесьці за сцяной...*
*Не бачыш, што перад вачамі,*
*Не ведаеш, што за спіной!*

*Нам гэтак мала й многа трэба,*
*Каб адрадзіць сваю душу.*
*Гляджу прасветлена на неба*
*І малітоўна зноў прашу:*

*Жанчыне дай свайго мужчыну,*
*А тая сына нарадзі.*
*Дачушка — бацьку, маці — сына*
*Хутчэй знайдзі, хутчэй знайдзі!*

*Даволі цешыцца чужынай,*
*Наперад весялей глядзі.*
*Душа — душу, народ — Айчыну*
*Хутчэй знайдзі!*

### Дым

*Чырвоны, жоўты ёсць агонь,*
*Мне падабаўся белы.*

*Буду думаць я*
*думу сваю,*
*Што жыццё маё —*
*сон і мярэжы,*
*Раўназначныя беламу дню.*

•

*Вясну спаткання,*
*Лета кахання,*
*Восень расстання*
*І зіму ўспаміну*
*Вам пакіну...*

*Вам пакіну*
*буянне траўня,*
*Акварэлі кветак, лісця і траваў,*
*І цень адвячорка,*
*і промні ранні,*
*Чэрвеня завязь —*
*завязь кахання*
*Вам пакіну...*

*Вам пакіну*
*ліпеня губы гарачыя вішань,*
*Жніўня абдымкі,*
*дыханнем спавітыя,*
*Верасня яблык салодкай спакусы,*
*Маладзічкова-злітыя вусны,*
*Ліст не пісьмовы —*
*Жоўта-кляновы,*
*Што адляціць у снежную вусціш,*
*Вам пакіну...*

*Вясну спаткання,*
*Лета кахання,*
*Восень расстання*
*І зіму ўспаміну*
*Вам пакіну...*

---

*Кладу вугельчык на далонь*
*З іскрынкаю нясмелай.*

*Шугае полымя ўгару,*
*Уздрыгвае планета.*
*З маленства знаю,*
*што памру,*
*Але не веру ў гэта.*

*Жыццё заснежыла мне скронь,*
*А ў сэрцы горка й страшна.*
*Якога колеру агонь,*
*Цяпер ужо не важна.*

*І не схавацца, не ўцячы —*
*Паўсюль і дым, і сажа.*
*Паспець бы ўнучцы памагчы,*
*А як? —*
*Ніхто не скажа.*

*...Дзьму, каб вугельчык ззяў ярчэй,*
*Прыпальваю зноў "Прыму",*
*А слёзы сыплюцца з вачэй, —*
*Відаць, хапіла дыму...*

## Восеньскае

І. К. ЦІШЧАНКУ

*Яшчэ рана мне вас пакідаць,*
*Пералескі, палі і дубровы —*
*Свет знаёмы, а кожны раз новы:*
*Дуб падрос, стаў аблокі гайдаць.*

*Так іду, каб лісцё не таптаць —*
*Колер жоўты, чырвоным сагрэты.*
*Пад нагой шархатлівае лета,*
*Жураўлі ў небе клінам ляцяць.*

*Дзень і гэты наўзнак праміне.*
*За спіною мой дуб пры даліне.*
*Вунь лісток на счарнелай асіне*
*Так трымціць, бы вітае мяне.*

*Боль і слёзы у сэрцы на дне —*
*Гэта толькі здаюся вам цвёрдым.*
*Не жывым я пажалюся —*
*мёртвым:*
*Яны лепей пачуюць мяне.*

*Раб спяшаецца край наш*
*прадаць —*
*І лясы, і азёры, і рэкі.*
*Ах, якія мы ўсё ж недарэкі:*
*Б'е пярун, а нам хочацца спаць!*

*Я — вясковае нацыі сын.*
*Што з маёю душой і рукамі?*
*Жыў нібыта ў бетоне, як камень,*
*Што пад коламі тысяч машын.*

*...Давядзецца ўсё ж вас пакідаць,*
*Бо закон ёсць няўмольны, суровы...*
*А пакуль пералескі, дубровы*
*Над маёй сівізною шумяць.*

ПРОЗА

Алесь ВЕТАХ



# ДУБ НА ЎЗМЕЖКУ

АПАВЯДАННЕ

— Калі гэта ты, браце, спілуеш свой дуб, га?

Віктар не сумняваўся, што стары Сёмка, а папраўдзе Сымон Нямковіч, сусед іх, Багінскіх, скажа — замест прывітання — акурат гэтыя словы. Сёмка, цыбаты і сухарлявы, крыху сагнуты радыкулітам, крэкнуў і шухнуў вядро памыяў пад куст агрэсту і толькі пасля ўжо зірнуў на "дачніка" і прашамкаў пра... дуб. Дачнікам Сёмка за вочы клікаў яго, Віктара, які бывае на сваёй бацькаўшчыне наездамі. Сёння ён толькі што прыехаў, паспеў пераапрануцца ў выцвілае, яшчэ крыху зеленаватае бацькава галіфэ і паношаную клятчатую кашулю і сцягваў з саду на панадворак абпіленыя мінулым разам яблыневыя галіны, каб потым пасеч гэты сушняк на дровы. Пачуўшы суседа, Віктар кіўком галавы павітаўся з ім, але Сёмка не адказаў на вітанне і зноў паўтарыў:

— То, можа, ты хоць на гэты раз са сваім дубам разбярэшся? Трэба яго, ядронь корань, на апал пусціць. Рады ад яго нямашака. Як распусціцца, то зноў цямрэча паўсюль будзе, усё збуяе і не парасце. Не знішчожыш дуба, то да ўласці пайду, у сельсавеце меры прымуць! — Сёмка пагрозліва ўзняў парожняе вядро, патрос ім у паветры, але больш нічога не сказаў, павярнуўся і паклыгаў прэч.

У старога Нямковіча была свая праўда, таму ніякіх тлумачэнняў слухаць ён не хацеў. Віктаравых довадаў не прымаў, лічыў іх адгаворкаю, адразу ж зрываўся на крык, екатаў ад злосці, кляў Віктара на чым свет стаіць. Малады Багінскі, рахманы па натуры, бянтэжыўся, прыгаломшана перамінаўся з нагі на нагу, быццам учыніў якую шкоду ці нават злачынства, не могучы перабіць старога, запярэчыць яму. Вымушаны быў адмоўчвацца, трываць кляцьбу і пагрозы. Сорамна было перад вяскоўцамі, якія маглі падумаць ліха яго велае што. Толькі аднаго разу, неўзабаве пасля смерці бацькі, Віктар быў пагаварыў з Сёмкам больш-менш спакойна. Той на нейкі час пераменіўся, падабрэў, у ягоных вачах з'явілася нават ці не спачуванне да Віктара — мусібыць, нешта скрэбла ўсярэдзіне ў старога, няйначай адчуваў, што і ён прычыніўся да гэтага дачаснага адыходу суседа на той свет. Але — толькі на нейкі час, а пасля зноў узяўся за старое.

Не адзін год вёў Нямковіч вайну з Адамам Багінскім, Віктаравым бацькам, за гэты дуб, загартаваўся ў гэтых сварках, не даваў суседу праходу, вольна дыхнуць ні вясной, ні восенню, ні раніцай, ні вечарам — чапляўся, як куст дзядоўніку за порткі.

— Адась! — гукаў Сёмка. Багінскі, заняты пры хаце клопатамі, рабіў выгляд, што не чуе. — Адась, чуеш ты, ліха тваёй с...цы? Чаго нос вернеш? Каб ты галавою налажыў!.. — І Сёмка сыпаў самыя страшныя праклёны.

Багінскі трываў, але быў усё ж не жалезны. Урэшце не вытрымліваў, нервова выплёўваў недакурак, хапаў з карыта сякач ці што іншае — што было пад рукою:

— Сыдзі з воч, сатана! А то мазгаўню тваю тухлую растаўку! Дуб яму свет засланіў, больш ні пра што галава ў яго не баліць... У лазню лепш сходзі, бо ўжо каростаю зарос!

Напалоханы Сёмка ніякавеў, ды толькі на хвіліну, а пасля досыць жвава, быццам аб'еўшыся блёкату, трухаў да сваёй хаты, лямантуючы:

— Ратуйце, людцы, забіваюць! Ой-ёй, забіваюць!..

Канчалася тым, што да Адама Багінскага прыходзіў участковы, папярэджваў таго не чапаць старога, бо дабром усё гэта не скончыцца. Аднак жа варажнеча, нягледзячы на такія візіты, доўжылася, справа даходзіла нават да суда.

Адам доўга адыходзіў пасля сварак з Сёмкам. Сыну, калі той прыязджаў да бацькі ў адведкі, скардзіўся:

— От дзе Бог суседа даў, сынок! Хоць бяры ды ў магілу кладзіся, каб гэтага шашаля старога не бачыць! Гэта не Нямковіч, а сапраўдны шалёны немец! Гебельс ці сам Гітлер!..

Бацька, былы франтавік, не любіў Сёмку яшчэ і таму, што той, хоць быў старэйшы за яго, не быў на вайне, не нюхаў пораху. Наадварот, пры немцах нібыта працаваў ён вольнанаёмным, нажываўся на людской бядзе. Сымон Нямковіч быў нетутэйшы, яго сасватала суседцы Франі, калі тая па маладых летах аўдавела, сваячка з-за Клецка. Франя паехала аднойчы туды з нейкае нагоды, а вярнулася з прымаком, нашмат старэйшым за сябе, нейкім вузкаплечым і даўгалыгім, як жэрдка. І хоць быў старэйшы, а перажыў Франю, якая згарэла ад сухотаў.

Пакуль была жывая суседка, Нямковічы мо і пазіралі скоса на дуб, але не абмаўляліся і словам, каб спілаваць дрэва, што красавалася на ўзмежку між іхнімі пляцамі. Летам дуб, адзіны на ўсю вёску, глядзеўся, нібы ў цёмна-зялёнай папасе магутны кучаравы казак. Вясной у яго кроне пырхалі розныя птушкі і заліваліся спевам, восенню ён сумна кідаў долу бронзава-рудую лістоту, зімой стаяў у вялікім маўчанні і задумлівасці.

А як толькі суседкі Франі не стала, яе прымак, адчуўшы сябе гаспадаром, адразу ж прыстаў да Адама, каб прыбраў дуб з вачэй, бо той затуляе сонца, высмоктвае сокі з зямлі, не дае расці бульбе ды буракам. Багінскі — ён на той час таксама пахаваў жонку і жыў адзін — пагадзіўся, што дрэва сапраўды каранастае і разгалістае, лепш было б, відома, каб яно расло не на ўзмежку, а дзе-небудзь у канцы пляца, ды што зробіш, калі тут яго калісьці пасадзілі. Меркаваў, што сусед гэтым задаволіцца. Але Сёмка як не чуў Адамавых слоў, настойліва, ці не з дня ў дзень патрабаваў парашыць дуб. Багінскі трываў, не адзін раз спрабаваў расказаць Сёмку, хто і калі пасадзіў гэты дуб, патлумачыць, чаму ў яго не падымаецца рука на дрэва, але сусед — бы не чуў нічога.

А было гэтак...

Перад самай вайной моцна закахаліся Адамаў брат Тонік і Франіна сястра Галя. Яшчэ падлеткам Тонік упадабаў суседскую дзяўчынку — кірпаносую, вясёлую і гарэзную, якая неўзабаве расквітнела і стала зграбненькай паненкай, красуняй, што вачэй не адвесці. І Галя сэрцам пагарнулася да шыракаплечага сінявокага хлопца, які хоць і быў негаваркі, але пяшчотны, палкі ў пацалунках, а ў ладатак у ім бачыўся добры гаспадар, здатны да працы, з дужымі і залатымі рукамі. Маладыя вырашылі прасіць у бацькоў дазволу на шлюб. Тыя не пярэчылі выбару дзяцей, якія выраслі ў іх на вачах, ужо збіраліся ладзіць запоіны, як злашчаснай чэрвеньскай нядзеляю наляцела ваенная ліха.

Восенню 1942 года Тонік, адыходзячы ў партызаны, разам з Галяю пасадзіў на ўзмежку маладзенькі дубок. "Глядзі на гэтае дрэўца і мяне згадвай, — казаў хлопец. — Хай злучыць дубок нашыя сем'і. Да нашага вяселля ён зазеляне..." Ды не суджана было блізкім і сваякам гуляць на іхнім вяселлі, а ім самім —жыць і нараджаць у каханні дзяцей. Галю разам з вясковымі дзяўчатамі вывезлі ў Нямеччыну, трапіла яна аж у далёкі Рур, адкуль не вярнулася. А Тонік, апынуўшыся пасля партызаншчыны на фронце, падарваўся на міне ва Усходняй Прусіі...

— Ведаеш, Сымон, рука не падымаецца на дрэва, — шчыра казаў Нямковічу расчулены ўспамінамі Адам Багінскі. — Хоць забі мяне, але не магу — і ўсё. Зразумей ты мяне і сваю жонку-нябожчыцу, якая старэйшую сястру страціла, некалі з маткаю вочы выплакалі. Як жа спілую дуб, памяць іхнюю? Гэтае дрэва — як сынок іхні, якога яны так і не прыждалі...

Прымоўк на дзень-другі стары Нямковіч, а потым каршуном кінуўся на Багінскага. Маўляў, што было, тое было, а дуб спілоўвай — і гамонцы канец. Інакай ён сам знойдзе на гэтае дрэва ўправу.

Звягі суседа і давялі, пэўна, Багінскага да інфаркту. Дактары, як ні стараліся, не змаглі яго ўратаваць...

Але і гэта не спыніла Нямковіча. Адшапацела і аддаждыла восень, сканалі завеі, сплыў вадою снег, і Сёмка пачаў даймаць Віктара, сына Багінскага: ці сам, ці наймі людзей, але пусці дрэва пад корань! Не даваў спуску, насядаў штораз, як толькі той завітваў у бацькаву хату. Збыць жа, прадаць каму-небудзь хату ён не хацеў. Лецішча свайго не прыдбаў, браць участак і будаваць недзе за краем свету не меў ахвоты. Быў ён чалавекам занятым, поруч з працаю у навуковым інстытуце заканчваў пісаць дысертацыю. Стараўся хоць на дзянёк вырвацца на радзіму — схадзіць на магілкі да маці і бацькі, зрабіць хоць што пры хаце. Ехаў сюды, дзе прабегла дзяцінства, каб падзарадзіцца, набрацца моцы, жыццёвай энергіі. Але ўсё псаваў Нямковіч. Не паспее прыехаць, зайсці ў двор, а той — тут як тут: спілуй дуб! Віктар спачатку спрабаваў тлумачыць, што бацька перад смерцю катэгарычна забараніў знішчаць дуб, бо калі той не паслухаецца і расправіцца з дрэвам, не будзе яму даравання. Віктар прагнуў паразумення, ды не знаходзіў яго.

У рэшце рэшт малады Багінскі здаўся. Стомлены ўласнымі праблемамі, тлумнасцю гарадскога жыцця, Віктар махнуў рукой:

— Дасталі, дапяклі вы мяне, шаноўны! Хочаце спілаваць дрэва? Ну дык і пілуйце! Я нават заплачу вам, толькі — пакіньце мяне ў спакоі!

Багінскі даў Сёмку пяць долараў. Гатовы быў аддаць усё, што меў у партманеце, абы той сціх, не кляў яго самога і яго дзяцей. Стары ўхапіў грошы і пацёгся ў хату, урослую па самыя вокны ў зямлю і нечым нагадваючы нару.

Сёмка на нейкі час угаманіўся. Але — на вельмі кароткі. Нечакана ён зноў прыслепіўся да дуба, хоць ужо з іншае прычыны. Скончыліся сена і буракі, не стала чым карміць чацвёра коз. Пасля смерці Франі стары Нямковіч завёў гэтых коз і ледзь не трызніў імі. "А ў маіх пястушачак блакітныя вочкі", — ласкава шамкаў бяззубым ротам. Зімою козы жылі ў хаце, спалі пры яго ложку, таму ў Сёмкаву нару хто чужы мог заскочыць хіба на паўхвіліны з заціснутым носам. Беланогія стварэнні мэкалі ад голаду, бегалі па гародзе, паспелі абгрызці ўсе слівы і вішні. І тады нямоглы Сёмка гукнуў апівоху Патапчыка, каб той наламаў козам на корм дубовых галін і паабсякаў з ненавіснага дрэва кару.

Дуб, меркаваў ён, пачне сохнуць, а пасля яго можна будзе і на дровы пілаваць.

Некалі Адам Багінскі нават лістоў не дазваляў ірваць на засолку агуркоў, сам хадзіў і іншых выпраўляў у лес, а тут... Налыкаўшыся самагонкі, Патапчык палез па драбіне на дуб, але тая знячэўку паехала, і памагаты паляцеў вобзем, і грымнуўся так, што выбіў ключыцу. У Сёмкі ад перапуду адвісла сківіца, не ведаў, што й рабіць, як даць якое рады беднаму Патапчыку...

Яшчэ большая злосць апанавала Сёмкам. Яму ўжо мроілася, што ненавіснае дрэва махае галінкамі, нібы рукамі, і Сёмка ўжо бачыў у ім жывога ворага, які затаіўся і хоча знішчыць яго...

Сёмка не мог прычакаць, калі падрулюе Лёнік Матаранка, ці, як яго дражнілі на вёсцы, Баўтун — мо таму, што ездзіў-боўтаўся па калгасе на бензавозе. Стары прыкладаў далонь, узіраўся з двара, якая машына едзе паўз хату. Нарэшце чарговая машына запіпікала. Стары, гублячы гумовыя ступакі, паспяшаўся на вуліцу. Лёнік запоўніў саляркаю ўсе падрыхтаваныя Сёмкам пасудзіны — выварку, ночвы і вядро, забраў долары і, дзівячыся са старога, сеў у кабіну і паехаў, пасвістваючы, нібы заказаны дрозд.

Адкапаўшы рыдлёўкай за колькі дзён пад дубам карані, Сёмка маленькім дзіцячым вядзерцам насіў і плёхкаў на іх салярку. Ён цяжка дыхаў, часта спыняўся, услухоўваўся, як ад стомы паколвае сэрца. За два-тры крокі да дрэва ён знянацку спатыкнуўся і ўпаў, вядзерца з сінявата-жоўтай вадкасцю плюхнулася амаль пры самай галаве. Салярка лінулася на валасы, правую скроню, пацякла па твары — па вачах, носе, губах. Лежачы ніцма, стары яшчэ адчуў, як рэзка торгнулася сэрца і замёрла, быццам апусцілася ў нейкую схованку...

Гэтым разам Віктар прыехаў дахаты з жонкаю і дзецьмі — Антонам і Галяю. Дзеці бегалі каля хаты, шукалі забавы-занятку. Затым пабеглі ў сад і апынуліся пад дубам. Пад ім была процьма жалудоў, многія з іх прараслі і маладымі парасткамі ўпіваліся ў глебу. Дзеці назбіралі поўныя жмені жалудоў прымчалі да бацькі.

— Тата, глядзі! — паказвала жменькі дачушка.

— Дзе іх пасадзіць? — следам папытаў малы Антон.

Бацька прысеў перад дзецьмі, прыглядзеўся. Жалуды, нібы бочачкі, рассохліся, з іх вымкнулі беленькія цікаўныя носікі. Нечакана для сябе прапанаваў:

— Айда, дзеці, за вёску. Пасадзім з вамі дубовы гай. Хто "за" — падняць рукі!

Маленькія ручаняты і бацькава рука ў адзін момант падскочылі ўгору. Вясёлыя галасы несліся па наваколлі...

А дуб сваёй раскідзістай кронай узвышаецца на ўзмежку. У ветраную пагоду, быццам чалавек, хітае рукамі-галінамі, яра нешта шуміць сваёй лістотай. Ускочвае штораніцы на вяршаліну сонца, трымае на дужых плячах скляпенне сініх нябёсаў, і, здаецца, само жыццё, якое ніколі не спыняецца і ўвесьчасна кіруецца ў будучыню.



га потым будуць часта гучаць з экрана.

У корш-саблінаўскіх фільмах закраналіся тэмы значныя і актуальныя. У фільме “Дачка Радзімы” (1937) паказвалася жыццё прыгранічнага калгаса, выкрыццё шпіёнаў. Класавыя ворагі, шкоднікі ў той час прысутнічалі ў многіх савецкіх фільмах. У вырашэнні гэтых канфліктных сітуацый склаліся свае трафарэты. Не пазбег іх і рэжысёр Корш-Саблін — свята калгаснікаў з беларускімі песнямі і танцамі заканчвалася словамі падзякі за шчасліваe жыццё “вялікаму правадыру”. Тыя, хто пісаў пра фільм не былі згодны з аўтарамі ў тым, як яны паказвалі ворагаў (спрошчана, карыкатурна), вылучалі выразныя вобразы старшыні калгаса Пашы, калгасніцы Волі і бабкі Марфы, створаныя артысткамі З. Карпавай, Р. Свярдловай і М. Блюменталь-Тамарынай. Да яе, стрэйшай рускай актрысы, якая іграла яшчэ на сцэне дзедава тэатра, У. Корш-Саблін ставіўся з асаблівай павагай. Што яна вартая гэтага артыстка даказала многімі кінаролямі. Сярод іх — незабыўная Двойра з “Шукальнікаў шчасця” (1936 г.).

Гэтая стужка, як і “Маё каханне” (1940) займае асобнае месца ў творчай біяграфіі рэжысёра. Даследчыкі савецкай кінакамедыі ставілі “Шукальнікаў шчасця” і “Маё каханне” побач з такімі папулярнымі фільмамі, як “Волга-Волга”, “Светлы шлях” Г. Аляксандрава, “Багатая нявеста” І. Пыр’ева. Гэта былі светлыя і жыццярадасныя стужкі. Лірычныя песні, напісаныя на музыку І. Дунаеўскага, з экрана ішлі ў народ, гучалі з эстрады і на розных вечарынах. Дарэчы, трэба нагадаць, што ў Корш-Сабліна і ў Пыр’ева быў адзін і той жа настаўнік па рэжысуры: у канцы 20-х гадоў яны, маладыя, абстраляныя на грамадзянскай, працавалі памочнікамі і асістэнтамі ў Ю. Тарыча. Пасля яны пачалі самастойна займацца рэжысурай і пайшлі кожны сваім шляхам. У. Корш-Саблін, масквіч па нараджэнні, з часу ўдзелу ў “Лясной былі” (1926) звязаў сваё жыццё з беларускім кіно.

У 1944 годзе Корш-Саблін з войскамі, што вызвалялі Беларусь ад фашысцкіх акупантаў, увайшоў у зруйнаваны Мінск. Рабіў дакументальныя фільмы, а праз два гады, калі ў студыі яшчэ не было ніякай вытворчай базы, паставіў першую пасляваенную мастацкую карціну “Новы дом” па сцэнарыі кінадраматурга Я. Памешчыкава, аўтара пыр’еўскіх кінакамедый. Галоўнымі героямі там былі старшыні суседніх калгасаў, што варагавалі з-за зямлі Зарэчных Лужкоў, на якой па праекце ленінградскага архітэктара павінна была пабудавацца ўзорна-паказальная цагляная вёска. Спрэчкі закончыліся двума шлюбамі з песнямі і танцамі пад музыку І. Дунаеўскага ды І. Любана. Прыемна было ўбачыць на экране любімцаў публікі Л. Смірнову (гледачы помнілі яе абаяльную Шурачку з “Майго кахання”), Я. Самойлава, Л. Кміта, М. Чаркасава, вядомых па многіх савецкіх фільмах. Аднак яны не выратавалі “Новы дом” ад крытыкі, для якой было шмат падстаў (легкавесны канфлікт, схематызм вобразаў). Цукрова-саладжавай, вадэвільнага кшталту называлі кінастужку — рэцэнзенты расейскія і беларускія. Калі праз дзесяць гадоў рэжысёр зноў звярнуўся да сельскай тэматыкі (у фільме “Пасеялі дзяўчаты лён”, сцэнарыст Я. Памешчыкаў), ён зноў пацярпеў няўдачу.

На фільмах “Канстанцін Заслонаў” (1949 г.), “Чырвонае лісце” (1958 г.), “Масква—Генуя” (1964 г.), “Запомнім гэты дзень” (1967 г.) У. Корш-Саблін аднавіў аўтарытэт высокапрафесійнага рэжысёра, разам са сваімі паплечнікамі атрымаў ганаровыя званні і дзяржаўныя прэміі. Найбольшы поспех у гледачоў і крытыкі мела стужка “Чырвонае лісце”, гераіка-прыгодніцкая кінааповесць, у аснове якой рэальныя падзеі з гісторыі рэвалюцыйнай барацьбы ў Заходняй Беларусі. Пра фільм, яго галоўнага героя Андрэя Мяцельскага (правобразам якога быў вядомы дзеяч КПЗБ С. Прытыцкі) пісалі літаральна ўсе газеты Беларусі. Адзначалі вартасці сцэнарыя А. Куляшова і А. Кучара, высокі прафесіяналізм рэжысуры Корш-Сабліна, выканаўцаў галоўных роляў, артыстаў Э. Павулса (Мяцельскі), М. Жарава (Шыпшынскі), К. Лучко (Ядвіга), дакладна падабраныя тыпажы для эпізодыкаў і масавых сцэн. Вельмі выразнае пластычнае вырашэнне фільма (аператар Ю. Фогельман): “У кадрах узнікае паэтычны вобраз восені, сімвалам якой і з’яўляецца чырвонае лісце”, — адзначана ў фундаментальным выданні “История советского кинематографа”.

Яшчэ да пастаноўкі “Чырвонага лісця” Корш-Саблін экранізаваў дзве п’есы К. Крапівы з удзелам самога аўтара — “Пяюць жаваранкі” (1953 г., разам з рэжысёрам спектакля К. Саннікавым) і “Хто смяецца апошнім” (1955 г.). Рэжысёр і аператар А. Гінцбург, мастакі Я. Ганкін і А. Грыгар’янц імкнуліся пераадолець дэкарацыйную ўмоўнасць дзеяння, вынесці шэраг сцэн на натуру. Штосьці ім удалося, штосьці засталося так, як было ў спектаклях Купалаўскага тэатра.

З усіх пасляваенных пастановак Корш-Сабліна найбольш супярэчлівыя меркаванні выклікала экранізацыя трылогіі Я. Коласа “На ростанях” (2 серыі фільма “Першыя выпрабаванні”, 1960-61 гг.). Нават газета “Літаратура і мастацтва” (27.IV.1960 г.) арганізавала на сваіх старонках абмеркаванне першай серыі фільма.

Некаторыя рэжысёры, артысты, крытыкі выказалі тады нязгоду з адыходам ад першаасновы твора, адзначалі, што аўтары фільма парушылі раздумлівую плынь коласаўскай трылогіі, спрасцілі вобразы, скарацілі важныя сцэны. Рэцэнзенты, што выступалі ў саюзным друку, знаходзілі ў фільмах шмат прывабнага (каларытныя вобразы палешукоў, пейзажы, знятыя аператарам А. Булінскім) і адначасова звыклага, драматургічна не апраўданага.

Любімымі тэмамі У. Корш-Сабліна былі розныя этапы рэвалюцыйнага руху, а героямі — тыя, хто верыў у яе ідэі і змагаўся за іх. Таму і ў апошнім яго фільме “Крушэнне імперыі” (1970 г.) галоўны герой — рэвалюцыянер-ленінец Ваулін. Рэжысёр даверыў гэтую ролю купалаўцу М. Яроменку, бо хацеў, каб гэты персанаж быў знешне прыгожым, каб у ім адчуваліся характар, ідэйная перакананасць. Артыст апраўдаў спадзяванні рэжысёра: у яго абліччы — натура цэльная, адухоўленая ідэямі, у якія паверыў і за якія змагаўся сам У. Корш-Саблін як грамадзянін і мастак.

Апошні фільм Корш-Сабліна здымаўся на месцах, дзе адбываліся падзеі Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года. Аператар І. Рамішэўскі ўспамінаў, як яны разам шукалі патрэбныя аб’екты на ўскраінах Ленінграда, якія б нагадвалі стары Петраград. Здымалі “пад хроніку” гістарычных падзей. Многія рэцэнзенты залічылі гэта ў адметнасці кінатвора, супастаўляючы фільм з раманам М. Казакова, па матывах якога ён быў створаны. Як заўсёды ў Корша здымаліся многія выдатныя акцёры, якія змаглі перадаць вызначальныя рысы гістарычных асоб. Сярод іх апошні рускі імператар Мікалай II. У выкананні беларускага акцёра В. Тарасава ён не такі, якога мы ўжо бачылі на экране — бязвольны, нерашучы. Цар у абліччы Тарасава — фігура драматычная, у яго сумных вачах — адбітак трагедыі часу, гісторыі. Не зважаючы на жанр “гістарычнай хронікі”, крытыкі найбольш чакалі ад аўтараў дэталёва распрацаваных характараў. Але наўрад ці магчыма было гэтага дасягнуць пры такіх асаблівасцях драматургіі і рэжысуры.

Як бачым, творчасць рэжысёра была разнапланаваая і рознага ўзроўню. У ёй нельга акрэсліць адзіную “лінію ўзыходжання”. І ён сам гэта ўсведамляў, выказваючы шкадаванне, што не ўсе задумы ажыццявіў, не стварыў твораў геніяльных. Але тое, што зрабіў, колькі сіл і здольнасцей аддаў беларускаму кіно і як творца, і як мастацкі кіраўнік кінастудыі, і як першы сакратар Саюза кінематаграфістаў — вялікі ўнёсак у нацыянальную культуру.

**Е. БОНДАРАВА**

*На здымках: У. КОРШ-САБЛІН у апошнія гады жыцця; кадр з кінафільма “Першыя выпрабаванні”.*

---

**ягонага цела на радзіму — да болю знаёмы паводле газетных публікацый. Гэта публікацыі падштурхнулі пісьменніка Трахімёнка да рамана або жыццё яго здзівіла больш? Дарэчы, скуль бярэцца так званае веданне жыцця ў чалавека, які займаецца навукай, увогуле, кабінетнай?**

— На вялікі жаль, гэта мой досвед. Да работы ў органах дзяржбяспекі я двойчы служыў у арміі. Першы раз, як і ўсе, тэрміновую службу, другі — два гады афіцэрам. Як жартавалі мае сябры, што ў арміі не служылі, гэта быў прызыў “за таго хлопца”. І аднойчы мне давялося пабыць у падобнай камандзіроўцы...

**— А юрыст Унучак з “Гульняў капрызнай дамы”, чыю чалавечую годнасць немагчыма ўявіць без сумлення, — своеасаблівая літаратурная кампенсацыя юрыста Трахімёнка?**

— Унучак паводле рамана — інжынер-механік, паколькі ў органы дзяржаўнай бяспекі прызываюцца не адны юрысты. Мінулая прафесія для кандыдата на службу не вельмі важная. Галоўнае, каб у яго для будучай работы былі ўсе якасці. А Унучаку, як відаць з ягонага мінулага літаратурнага жыцця, такіх якасцяў не бракуе. Таму ён і мусіў пазнаёміцца з органамі, — трапіў у поле іхняга зроку...

**— А мы з табой, Сяргей, пазнаёміліся на пачатку дзевяностых на Беларускім тэлебачанні. Я вяла перадачу пра тэатр, а ты...**

— А я намагаўся зразумець, як зладжаны “тэатральны механізм”. “Тэатр у фатэлі” дапамагаў мне прайсці гэтую школу хутчэй. Там для кожнае перадачы (а я глядзеў у самой студыі, бачыў яе падрыхтоўку) скарыстоўваліся фрагменты п’ес розных жанраў, удзельнічалі розныя рэжысёры, акцёры. Для мяне гэта быў своеасаблівы тэатральны лікбез.

**— Так ты дайшоў да драматургіі?**

— Я, праўда, не ведаў, што гэта — драматургія. Проста хацеў спасцігнуць некаторыя заканамернасці “перакладу” сваіх апавяданняў на мову сцэны ды экрана.

**— Удалося?**

— Пра гэта цяжка меркаваць. Хоць бы таму, што, акрамя звычайных складанасцяў гэтага перакладу ды засваення сцэнічнае мовы і здымачнае пляцоўкі, паміж аўтарам і канчатковым вынікам стаіць рэжысёр. А ён надта па-свойму бачыць усё, што ты яму прадстаўляеш у якасці п’есы або сцэнарыя. Потым да гэтага дадаюцца пэўныя “абмежаванні рэсурсу” (сродкі на рэалізацыю праекта, акцёрская ігра, процьма розных неспадзевак, часам вельмі прыкрых). Сам рэжысёр гаворыць пра ўдачу, калі яму ўдаецца сваю задуму ўвасобіць адсоткаў так на сорак. Дык што ўжо павінен казаць драматург, бачачы сваё тварэнне на экране ці сцэне?..

**— А ці думаў ты пра твор для сцэны да маёй просьбы яго напісаць? Я ў свой час узначальвала літаратурную частку Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.**

— Ну, дастаткова таго, што я проста ў тэатр хадзіў.

**— А ці магла б гэтая п’еса — “Галоўная прыкмета”, дзе трое юрыстаў аб’ядналіся ў вышуковае агенцтва і намагаюцца знайсці маньяка, які тэрарызуе горад, ператварыцца ў аповесць? Ці істотная розніца ў хуткасці, манеры, характары дзеянняў тваіх сцэнічных і літаратурных персанажаў?**

— “Галоўная прыкмета” задумвалася як п’еса, паколькі я атрымаў тваю замову. П’еса наўрад ці ператворыцца ў аповесць, мне не хацелася б пераводзіць у іншы жанр, таму што п’еса можа праз гэта шмат страціць.

**— Твая прафесія ды захапленні дапамагаюць пісаць кнігі?**

— Калі казаць пра нейкія правілы творчае дзейнасці ў сферы навукі і літаратуры, дык — не. У навуцы свае нормы, у літаратуры — свае. І тое, што добра для навукі, у літаратуры непрымальна. Ну, у прыватнасці, займаючыся навуковай працай, неабходна (нават імкнучыся да новага і непаўторнага) вывучаць работы тых, хто да цябе або разам з табой займаецца той ці іншай галіной доследу. У літаратуры ты мусіш быць падобным толькі сам на сябе.

**— А твае начальнікі нічога не маюць супраць таго, каб палкоўнік дзяржаўнай бяспекі і доктар юрыдычных навук быў пісьменнікам?**

— Гэтае пытаюць у мяне часта і я, шчыра кажучы, ужо стаміўся шукаць на яго адказ. Рэч у тым, што існуе Трахімёнак — супрацоўнік пэўнага дзяржаўнага ведамства, і Трахімёнак — пісьменнік. Яны заняты ў розных формах чалавечай дзейнасці. У першага ёсць свае функцыянальныя абавязкі і ён не выходзіць за іхнія межы. Поле дзейнасці другога не мае дачынення да дзяржаўных ведамстваў.

**— Мне не зусім зразумела: ты — юрыст, а ў навуцы займаешся праблемамі дзяржаўнай бяспекі?**

— Я займаюся праблемамі метадалогіі бяспекі і прававога рэгулявання яе забеспячэння. Другое немагчыма без першага, зрэшты, як і ўвогуле прававое рэгуляванне грамадскіх дачыненняў, у тым ліку і дачыненняў у сферы забеспячэння бяспекі.

**— А што такое бяспека?**

— Бяспека — гэта ўласцівасць, якой можа валодаць або не валодаць элемент сістэмы. Ну, каб не дурыць галавы, бяспеку можна назваць абароненасцю ад неспрыяльных фактараў.

**— Скажам, ад насмарку?**

— Так, калі насмарк з вялікай ступенню верагоднасці можа даць ускладненне, якое знішчыць або цябе, як біялагічны аб’ект, або як асобу...

**— Але ж ці можа бяспека быць навукай?**

— Любы прадмет або з’ява можа быць аб’ектам навуковага доследу.

**— Ці карэктна будзе параўнаць ролю спецслужбаў у нас і, так бы мовіць, у цывілізаваных краінах?**

— Я не прымаю падзелу краін на цывілізаваныя і нецывілізаваныя. Яшчэ на пачатку стагоддзя Освальд Шпенглер заявіў, што культуры (цывілізацыі) не маюць іерархій. Таму ніводная з існуючых цывілізацый не мае права казаць, што, маўляў, яна — першая, а ўсе астатнія — за мной. Мала таго. Я мяркую, што аснову для выжывання нацыі складае яе бяспека, а ўвесь дыяпазон сродкаў для выжывання ёсць у культуры. У культуры-з’явішчы, якая вынікла з пэўных умоў існавання і з’яўляецца на пэўнай геапалітычнай прасторы самадастатковай катэгорыяй. Вельмі цяжка аднавіць прычыны, па якіх чалавек калісьці “выпаў” са свету прыроды з яе жорсткім рэгуляваннем працэсаў жыццядзейнасці. Але, як бы там ні было, пазбыўшыся прыроднай абароны, гэта значыць — жорсткіх прыродных абмежаванняў, чалавек разам са свабодай волі і свабодай выбару набыў нешта, што не садзейнічала працэсу выжывання, але было скіравана на знішчэнне чалавека самім чалавекам. І, каб выйсці з такога непрыемнага становішча, чалавек мусіў ствараць другую прыроду, якая стала называцца культурай, і якая сваімі нормамі забяспечыла яго выжыванне. Таму ўсё, што спрыяе выжыванню, — культура. Усё, што ствараецца чалавекам, але разбурае гэтую другую прыроду, ёсць з’ява антыкультуры. Значыць, яшчэ раз падкрэсліваю, культура ў шырокім сэнсе ёсць спосаб выжывання. Паводле сучасных геапалітыкаў. У свеце існуе восем самадастатковых культур: праваслаўна-славянская, заходнееўрапейская, паўночнаамерыканская, лацінаамерыканская, мусульманская, канфуцыянская і гэтак далей. А што да ролі спецслужбы, дык яна адна і тая самая ў любых дзяржавах.

**— А ці адбіваюцца твае прафесійныя інтарэсы на тым, што ты пішаш?**

— Ці не выстройваю я свае творы па законах жыцця і правілах сваёй прафесіі? Літаратура працягвае адыгрываць нейкую кампенсацыйную ролю. Мастацкімі метадамі яна скасоўвае нейкую розніцу ў тым, што адбываецца ў жыцці, і нейкім маральным ідэалам. Або, дэманструючы гэтую розніцу, літаратура падштурхвае чытача шукаць гэты ідэал. Набліжацца да яго. Праўда, пісьменніку і ў Беларусі, і ў Расіі, трэба заўжды памятаць збітае, трывіяльнае ўжо сцверджанне, што ў рамках праваслаўна-славянскай культуры паэт заўжды большы, чым паэт.

**— Цікава, а чый уплыў давёў-такі да “пладоў літаратурнае творчасці” цябе?**

— У бацькоў была прыстойная па мерках сібірскай правінцыі бібліятэка мастацкай літаратуры. Шмат чытала маці. Бацька працаваў электрамеханікам, выпісваў і чытаў вялікую колькасць тэхнічнай літаратуры. Розніца ў мастацкім узроўні твораў большасці савецкіх пісьменнікаў, якія друкаваліся... у тоўстых і тонкіх часопісах, якія выпісвалі бацькі, і класікаў, чые кнігі былі ў нашай бібліятэцы, давяла мяне аднойчы да думкі, што я мог бы лепей за першых распавесці пра тое, што бачыў, што ведаў, што мяне хвалявала.

**— Але ж “няма нічога новага пад сонцам”, і ты нагадваеш пра гэта сваім чытачам...**

— Эпіграф з кнігі Эклезіяста або Прапаведніка да аповесці “Дванаццаты апостал” нясе звычайную для эпіграфа нагрузку: адной фразай падкрэслівае асноўную думку твора. Пачынаецца аповесць вытрымкай з Бібліі, а канчаецца цалкам празаічнай просьбай “кінуць недакурак у жалезны сметнік” у той момант, калі герой падмятае вуліцу. Такія розныя на першы погляд узроўні, аднак першае і другое мае адну і тую ж сутнасць. Эклезіяст гаворыць, што “няма нічога новага пад сонцам” і ўсё паўтараецца. Пры гэтым не варта ганарыцца тым, што падчас збірання камянёў ты іх збіраеш. Самы збор азначае магчымасць будучага раскідання. Але апошні сказ аповесці сведчыць хіба пра тое, што чалавецтва за шмат стагоддзяў свайго існавання шляхам спроб і памылак выпрацавала сістэму правілаў паводзін, якая дазваляе яму выжыць. Адмаўленне ад іх не робіць чалавека “больш цывілізаваным”. Хутчэй, адкідае да пачатку шляху...

**Гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

## Талент пісьменніка і чалавека

НАВУМУ ЦЫПІСУ — 65



Нарадзіўся Навум Фроімавіч у горадзе Казацін Вінніцкай вобласці (Украіна). У час Вялікай Айчыннай вайны сям'я была эвакуіравана на Урал, а ў 1944 годзе вярнулася ў Вінніцу, дзе Н. Цыпіс закончыў школу. У 1955 годзе стаў студэнтам Курскага педагагічнага інстытута. З 1961 года працаваў выкладчыкам грамадскіх навук аднаго з мінскіх гарадскіх прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў. У 1988 годзе стаў літаратурным супрацоўнікам бюлетэня "За безопасность движения", праз два гады пераўтворанага ў часопіс "Вираж", працаваў таксама ў рэдацыі газеты "Культура".

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1965 годзе. Аўтар аповесцяў "Прыгавор" і "Ціхія кіламетры" (разам з Г. Кругловым), "Дзесьці ёсць горад", кнігі апавяданняў "Старыя дарогі", рамана "Балканская рама" і іншых твораў, напісаных па-руску. У літаратурнай апрацоўцы Н. Цыпіса выйшлі кнігі "Гнеўная Шчара" П. Шупеня, "Побач са смерцю" У. Блавацкага... Апошнім часам хораша заявіў аб сабе як публіцыст, які ўзнімае надзённыя праблемы паўсядзённага жыцця, а таксама расказвае пра жыццё сучаснай Германіі.

Віншуем Навума Фроімавіча з 65-годдзем! Зычым яму моцнага здароўя, новых творчых поспехаў!

## "Партрэты" Аляксея Паўлюця

"Твар чалавека — вечная тэма для творчасці мастакоў усіх часоў і культур. Займальна вывучаць твары, юныя і сталыя, у якіх адбіваюцца лад жыцця і жыццёвы вопыт", — гаворыць Аляксей Паўлюць, фотавыстава якога прайшла ў зале Музея сучаснага мастацтва пад назвай "Партрэт". Яна пашырыла межы ўспрымання традыцыйнага партрэта, дала магчымасць вобразна асэнсаваць апошнія імгненні адыходзячага стагоддзя. "Уся гісторыя партрэта звязана з уяўленнямі аб жыцці і смерці і з панаццем "памяць", з алегорыямі і міфамі", — удакладняе фотамайстар. Асаблівую ўвагу аўтар надае вачам, позірку і паставам людзей, што раскрывае Аляксея як няпрэннага псіхолага-назіральніка. Таму кожная работа яго, кожны твар на здымку — цэлае апавяданне пра жыццё і думкі герояў. Трэба адзначыць, што ў Паўлюця абсалютна адсутнічаюць застылыя паставы і твары. Усе людзі — рухомыя, жывыя.

Аляксей Паўлюць нарадзіўся ў 1958 годзе, выстаўляць свае работы пачаў у 1989. Яго праекты, акрамя Мінска, мелі месца ў ЗША, Польшчы, Іране, Англіі, Партугаліі, Іспаніі. Ён з'яўляецца ўладальнікам Ганаровай Стужкі Міжнароднай фатаграфічнай арганізацыі ІАР за 1999 год. Ён навучае дзяцей фотамастацтву ў мінскім Палацы моладзі, з'яўляецца куратарам сумеснага беларуска-англійскага абмену фотавыставамі. Яго творчае крэда: "Я веру, што свет цудоўны!" Што ж, гледзячы на яго фотаработы, не сумняваешся, што гэта так.

Святлана ЖУРАЎСКАЯ

## У Полацку музычным

У канцэртнай зале Сафійскага сабора Полацка закончыўся XIV Міжнародны фестываль старадаўняй і сучаснай камернай музыкі. У гэтым традыцыйным свяце ўдзельнічалі беларускія музыканты, а таксама госці з Расіі і Аўстрыі. Мінскі абласны камерны хор і аркестр "Sonorus" адкрыў фестываль сваёй прэм'ерай — "Магніфікатам" Дж. Рутэра (твор прагучаў упершыню ў Беларусі). З вялікім поспехам прайшоў вакальны вечар "сярэбранага голасу Расіі" Алега Пагудзіна. Публіка цёпла прыняла выступленне аўстрыйскага арганіста і піяніста Манфрэда Тауша. Адбылося знаёмства з маладым ансамблем старадаўняй музыкі з Санкт-Пецярбурга "Laterna Magica". Завяршыўся фестываль рэдкім па жанры канцэртам музыкі для фартэпіяна ў 4 рукі. Яго падрыхтавалі дуэт, які мае сусветную вядомасць, — прафесары Маскоўскай кансерваторыі Алена Сарокіна і Аляксандр Бахчыеў.

Н. БАРАВІК,
музычны рэдактар канцэртнай залы Сафійскага сабора

ВІНШУЕМ!

# А з частушкай — весялей!

## Івану ЦІШЧАНКУ — 70

Іван Кірылавіч — чалавек у навуковым і пісьменніцкім асяродку знакаміты — вядомы фалькларыст, літаратуразнаўца, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, якой удастоены ў 1986 годзе за ўдзел у падрыхтоўцы шматтомнага выдання "Беларуская народная творчасць". А нарадзіўся І. Цішчанка ў вёсцы Улукі цяперашняга Слаўгарадскага раёна. Да вайны паспеў скончыць тры класы мясцовай пачатковай школы. У вайну, за дапамогу партызанам, быў схоплены фашысцкімі карнікамі і цудам уратаваўся ад расстрэлу. Скончыўшы Слаўгарадскую школу, паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Яшчэ ў студэнцкія гады пачаў цікавіцца фальклорам, удзельнічаў у экспедыцыях. Шмат друкаваўся ва універсітэцкай газеце "За сталінскія кадры" ("Беларускі універсітэт"). У 1956 годзе атрымаў дыплом аб вышэйшай адукацыі, выкладаў мову і літаратуру ў Мінскім тэхнікуме харчовай прамысловасці. З 1957 года, з моманту заснавання Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР працуе ў гэтай даследчыцкай установе — малодшым, старшым навуковым супрацоўнікам. У 1992 годзе перайшоў у Беларускі універсітэт культуры, стаў загадчыкам кафедры фальклору.

У 1968 годзе І. Цішчанка абараніў кандыдацкую дысертацыю па тэме "Беларуская частушка. Пытанні генезісу жанру". Упершыню выступіў у друку з фельетонамі, якія былі апублікаваны ў 1951 годзе ў слаўгарадскай раённай газеце "Ленінскае слова". У рэспубліканскай перыёдыцы з 1956 года выступае з артыкуламі па пытаннях фалькларыстыкі і гісторыі літаратуры. Выдаў манаграфіі "Беларуская частушка. Пытанні генезісу жанру", "Жыццё песні", "Да народных вытокаў". Для серыі "БНТ" падрыхтаваў тамы "Жартоўныя песні", "Песні пра каханне", "Сямейна-бытавыя песні", "Прыпеўкі", "Сацыяльна-бытавыя песні" (разам з В. Скідланам). Сааўтар манаграфій "Беларуская народная вусна-паэтычная творчасць", "Беларуская фалькларыстыка". І. Цішчанка вядомы і як сцэнарыст дакументальных фільмаў, выступаў у галіне прозы.



З 70-годдзем Вас, шаноўны Іван Кірылавіч! Няхай і надалей Вам хораша жывецца і пішацца!

# Вучоны і педагог

З Іванам Цішчанкам, сягоння аўтарытэтным даследчыкам фальклору, прафесарам Беларускага універсітэта культуры, пісьменнікам, пазнаёміліся без мала паўвека таму назад — на самым пачатку 50-х.

Разам здавалі ўступныя экзамены на філфак БДУ, апынуўшыся ў другім патоку. Чаму ў другім, пад заслону прыёму? У мяне на гэта была свая прычына, Іван жа прызнаўся, што вагаўся, выбіраў паміж будаўнічым тэхнікумам, адпаведным факультэтам у Беларускім політэхнічным і філфакам. Пэўна, няцяжка ўявіць заўсёды жвавага, няўрымслівага Івана Кірылавіча і на будаўнічай пляцоўцы і за ватманам з архітэктурнымі чарцяжамі. Але, здаецца, ён зрабіў шчаслівейшы выбар, паступіўшы на філалогію. Праз яе змог далучыцца і да дойлідства. Толькі ўжо не матэрыяльнага, а ў галіне духоўнасці, навукі, культуры, мастацкага слова.

На гэтай дзялянцы пры нашай вечна хітрамудрай сістэме палат каменных, як і іншыя, ён сабе збудаваць не здолеў, але плён у слове, пяром сабраў не малы, людзям патрэбны, нечым апорны народу свайму на яго няпростых гістарычных шляхах-пуцявінах.

Першыя значнейшыя творчыя ўдачы Івана Цішчанкі звязаны з беларускай фалькларыстыкай, народазнаўствам. Спрыяла гэтаму рознае. А перадусім тое, што традыцыйную беларускую культуру спазнаваў змалку, пры самых вытоках яе.

Спявала старэйшая сястра Вольга, якая ў 1943 годзе добраахвотнікам пайшла на Айчынную вайну. Адной песняю яе "Адлятае мой саколік, адлятае" Іван Кірылавіч і зараз можа кранууць нават скамянелую душу. Нямала народнай мудрасці будучы фалькларыст-навуковец пазнаў-пераняў ад дзедапчаляра Аніські. Унікальную замову яго на пчаліны рой пазней увёў у складзеную сумесна з калегамі "Хрэстаматыю беларускага фальклору", дарэчы, ужо чатыры разы перавыдадзеную як вучэбны дапаможнік. Доўга нічога не гаварыў сябра пра бацьку. Пры адной шчаслівай сямейнай нагодзе ў яго ўдалося ўбачыць Цішчанку старэйшага, Кірылу Анісімавіча. Быў гэта ўжо вельмі пажылы чалавек, самавітага выгляду, нетаропкі ў рухах, гаворцы. Цяжар гадоў, перажытага ляжаў на ім няўзнак для староннега вока. Ад Івана даведаўся, што бацьку давялося адваяваць дзве вайны, першую сусветную, падчас якой ён пехатой прайшоў ад Варшавы да Смаленска, і грамадзянскую, у якую быў двойчы паранены. Перажыў Кірыла Анісімавіч і грамадскі ўзлёт, і крушэнне мар. У свой час узначаліў адну з першых калектыўных гаспадарак на Слаўгарадчыне, калгас імя А. Чарвякова. А ў 1937 годзе, гвалтоўна адарваны ад сям'і з чатырма дзецьмі, вымушаны быў вандраваць ад турмы да турмы ў сістэме сталінскага ГУЛАГа.

Працуючы з Іванам паўжыцця побач, у адным інстытуце, ведаю, якой штодзённай трывогай былі для яго апошнія зямныя гады маці Тацяны Васільеўны. Шмат узяў ад яе, многім абавязаны ёй, роднай.

Калі яшчэ толькі паступіў Іван у БДУ, стрыечны яго брат, чалавек на становішчы ў самім універсітэце, адразу папярэдзіў, каб аб сваяцтве з ім нікому не прызнаваўся. Два тоўстыя сшыткі Іванавых вершаў, напісаных у школьным літгуртку, заснаваным ім разам з Алесем Яскевічам і Мішам Стральцовым, прагледзеў паблажліва, друкавацца не раіў, у крайнасці — пад псеўданімам. Нявінны цень бацькі-палітвязня стаяў за хлопцам. Вершы пісаць Іван перастаў, але як аказалася праз паўвека, не зарокся. Былі ў жыцці сягоннняшняга юбіляра не толькі тыя раннія прыкрасці, большыя і меншыя, ды пераадольваліся маладосцю, прагай жыцця, ведаў, свету.

Акрыляў, пачуў цвярдзейшы грунт пад нагамі, калі трапіў у Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук. Штогадовы ўдзел у фальклорных экспедыцыях дазволіў шырэй убачыць Беларусь, дапамог скласці рэальнае ўяўленне аб этнічнай самабытнасці і багацці беларускай вусна-паэтычнай творчасці.

У 1967 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю. Даследаваная маладым навукоўцам праблема генезісу беларускіх прыпевак знайшла падтрымку ў айчынных вучоных і зацікаўленае рэцэнзаванне ў навуковых выданнях народазнаўчага профілю ў Польшчы і Германіі.

Праца ў архівах і бібліятэках Ленінграда, Вільнюса, Мінска расшырала навуковы гарызонт, дала багаты фактычны матэрыял для напісання грунтоўнай навуковай манаграфіі "Да народных вытокаў".

Аб'ёмна, у кантэксце эпохі XIX ст. убачаны І. Цішчанкам постаці такіх выдатных беларускіх этнолагаў і фалькларыстаў, як П. Шпілеўскі, І. Насовіч, А. Кіркор, П. Гільтэбрандт, П. Шэйн, П. Бяссонаў, А. Багдановіч. Асаблівa ў публікацыях пра П. Шпілеўскага, І. Насовіча, А. Кіркора, Я. Ляцкага даследчыкам уведзена ў фальклрыстычны і літаратуразнаўчы навуковы ўжытак багата новых фактаў, звестак, твораў. Росшукі фалькларыста праліваюць святло і на грамадскую думку мінулага. Аўтарскім захапленнем пазначаны працы І. Цішчанкі, прысвечаныя практыкам беларускай народнай культуры, яе носьбітам і прапагандыстам. Тут ён знаходзіць розныя формы ўвасаблення матэрыялу. Пра гісторыю ўзнікнення песні "Бывайце здаровы" і яе аўтараў піша нарыс, які выходзіць асобным выданнем. З рэжысёрам Л. Гідравічусам стварае кінадакументальную стужку пра Адама Русака.

Пазней з Гідравічусам узнаўляе на кінаэкране жыццё і творчую дзейнасць чарадзея беларускай песні народнага артыста Р. Шырмы. Дзеля гэтага едзе ў Варонеж, запісвае на відэаплёнку ўспамін пра Рыгора Раманавіча яго вучня пісьменніка Г. Траяпольскага, наведвае землякоў славутага валадара беларускай песні і культурна-грамадскага дзеяча. Адкрывае сучаснікам прапагандыста беларускай народнай музыкі ў Еўропе ў XIX ст., расказвае пра жыццё музыкі-самародка І. Гузікава. Хораша засведчыў у друку і пра творчую дружбу з беларускай песняй народнай артысткі Ірмы Яўнзем. Нарэшце, з рэжысёрам Рычардам Ясінскім І. Цішчанкам зняты выдатны поўнаметражны дакументальны фільм "Вяртанне Забэйды-Суміцкага", дзе на ўвесь рост створаны літаратурна-мастацкі партрэт таленавітага артыста-спевака і патрыёта, які пранёс беларускую песню шырока па свеце.

Адметна, што ў Івану Цішчанку, даследчыку, вучоным, заўсёды стоена, часам трохі прыадкрываючыся, жыў літаратар, мастак слова. Слухаючы яго жывыя артыстычныя аповед, сябры не раз казалі яму: "Запішы расказанае, гэта ж сапраўдная навела..."

У надрукаваным у 4-м нумары "Маладосці" за 1988 г. апавяданні "Склезень" І. Цішчанка дасягнуў глыбокай псіхалагізацыі вобраза, перакнаўча засведчыўшы пра свае літаратурна-мастацкія магчымасці. Вершы апошняга часу, што самахоць хлынулі з душы шаноўнага прафесара, а адзін з іх пакладзены ўжо на музыку кампазітарам У. Угольнікам, адбылася прэм'ера, толькі пацвярджаюць сказанае.

Аўтар васьмі кніжак і больш двухсот артыкулаў, нарысаў, рэцэнзій, уганараваны за фалькларыстычную працу Дзяржаўнай прэміяй Беларусі, Іван Кірылавіч Цішчанка сустракае сваё сямідзесяцігоддзе ў добрай творчай форме. Пажадаем жа яму добрага здароўя, зямной трывучасці і рэалізацыі творчых планаў. Нагадаем заадно, што галоўная яго кніга яшчэ за ім. Няхай думае.

Арсень ЛІС

Іван ЦІШЧАНКА

## Тастамент

*Гады ляцяць, як спуджаныя коні,*
*Іх бег нічым, нікому не стрымаць.*
*Няўмольны час павыбеліў мне скроні,*
*Паклаў свой след —*
*гадоў пражытых рацъ.*

*Але я малады душой і сэрцам,*
*Таму і не прымаю юбілейных дат.*
*Сябры мае, прашу паверце,*
*Яшчэ не наступіў мой лістапад.*

*Яшчэ не ўсе задумы мае здзейснены,*
*Я не знарок прыйшоў на гэты свет.*
*Найлепшай справаю, як песняю,*
*Хачу пазначыць свой апошні след.*

*Калі ж не здзейсніцца ўсё, што я намеціў,*
*Не буду я на долю наракаць.*
*Мой сын — мой лепшы твор на свеце,*
*Таму магу спакойна паміраць.*

●

*Сняцца мне каляровыя сны,*
*Як заўжды, у разгары вясны.*

*Сніцца родная вёска, узлескі,*
*А ў іх дыванамі пралескі*

*Палыхаюць нябесную сінню*
*І рачной разліваюцца плынню.*

*Ах, пралескі — падснежныя кветкі,*
*Я тут госць ваш цяпер вельмі рэдкі!*

*Сніцца светла бацькоўская хата*
*У зеляніне густой вінаграда,*

*Сад у квецені пеніста-белай*
*І буслянка на ліпе счарнелай.*

*Сніцца маці ў чырвонай хусцінцы,*
*Сустракае мяне на гасцінцы,*

*Абдымае і ціхенька плача:*
*— Мой сыночак, мая ты ўдача.*

*Сніцца бацька чамусьці панурым,*
*Утаймоўвае пчол дымакурам,*

*Гоніць роя з паркана ў раёўню,*
*Што ў руках яго свеціцца поўняй.*

*Бачу ў бэзавай кофце бабулю,*
*Парадкуе старанна цыбулю,*

*А сястра мые новыя сенцы*
*У ружова-кваяцістай сукенцы.*

*Сніцца часта карціна такая,*
*Ды ніхто там мяне не чакае.*

*А ля палаца білецёры*
*Паклон адвесілі чынам —*
*І ўжо схаваліся за шторы*
*Азадкі і мужоў і дам.*
*І — як засмучаныя сведкі,*
*Надаючы мастацтву тон,*
*Памятыя ляжалі кветкі,*
*Што нехта кінуў на бетон.*
*І гэта ўсё кранула гэтак*
*І мне дало такі аспект,*
*Што я без славы і без кветак*
*Падаўся моўчкі на праспект.*
*І тут, на плошчы Перамогі,*
*Адчуў прастор і шырыню,*
*Трапеча вецер веку строгі*
*Навокал вечнага агню...*

*Шаноўныя майстры мастацтва,*
*Нам — і палацы, і правы,*
*А мы ў сваёй мастацкай працы*
*Ці закасалі рукавы?*
*Няўжо, сябры, любоў урада*
*І ўсё, што нам дае народ,*
*Не больш, як повад для парада,*
*Не больш, як звон узнагарод?*
*Няўжо пад звон такога роду*
*Ў кагосьці прыкры*
*сверб пранік?*
*Нібы не ён даўжнік народу,*
*А сам народ яго даўжнік?*
*Калі ў мастацтве ўжо аселі —*
*На носе гэта засячы —*
*Каб нашы душы не лыселі —*
*Нам душы трэба берагчы.*
*Браты мае! Майстры культуры!*
*Усім нам зразумець пара,*
*Навошта Лысая гара*
*Мастацтву і літаратуры...*
*Магчыма, зараз нейкі творца*
*З палёгкай тайнай уздыхне:*
*Дапёкшы іншых лысагорцаў,*
*Не зачапіў Вядзьмак мяне...*
*Я адвяду ягo сумненне,*
*Бо я не кануў у ваду:*
*Калі гукне мяне сумненне —*
*У ваш палац я зноў прыйду!*

Брашура з тэкстам "Сказа пра "Лысую гару" і "Роздуму ля парадная брамы" ўключае і вельмі цікавую прадмову ды каментарый Антона Адамовіча, беларускага эміграцкага крытыка, цяпер ужо нябожчыка. У прадмове Ант. Адамовіч адносна "Сказа пра Лысую гару" падкрэслівае: "У мастацкім дачыненні гэта сапраўдны шэдэўр", ён "блізка нагадвае шэдэўр нашай паэзіі XIX века — славутую паэму "Тарас на Парнасе", з якой часам аж пераклікаецца радкамі". Крытык зазначае, што публікатары твора "дасталі "на 99 працэнтаў пэўнае", як нам сказалі, раскрыццё сапраўднага прозвішча аўтара-ананіма, але паважаючы выразнае жаданне таго аўтара заставацца поўным ананімам, мы таго прозвішча не публікуем".

І яшчэ адна цытата са слушнымі меркаваннямі Ант. Адамовіча: "Роздум ля парадная брамы" — яўнае перайманне "Сказа". Ён ужо мае подпіс "Вядзьмак Лысагорскі". Там і намёк, што ён жа, Вядзьмак, аўтар "Сказа"... Але сам тэкст паэмы ("Роздум") пакідае ўражанне пра гэтага Ведзьмака барджэй як пра здольнага, праўда, але ўсё ж толькі пераймальніка аўтара "Сказа пра Лысую гару". З тае крыніцы, адкуль мы дасталі "Роздум", ён падаваўся нам у тым жа духу, як **працяг** "Сказа пра Лысую гару". Аднак цягласць паміж дзвюма паэмамі фактычна вельмі абмежаваная — няма яе зусім у сюжэце (якога, дарэчы, у "Роздуме" зусім няма), а што да герояў, дык тут ёсць барджэй, калі можна так сказаць, "расцяг", як працяг — расцяг з пісьменніцкага асяроддзя "Сказа пра Лысую гару" на асяроддзе мастакоўскае і часткова тэатральнае. Аднак асяроддзе гэтае куды менш знанае шырокай публіцы, дык і ў героях "Роздуму" цяжка, а часам і проста немагчыма бывае пазнаць рэальных людзей". У "Сказе" ж яны, як кажа крытык, амаль заўсёды "лёгка пазнаюцца". Адзначыў ён і чуткі, што ў "Савецкай Беларусі курсіруюць яшчэ некалькі падобных "працягаў" (ці мо й расцягаў)".

Як бачым, і тут даследчык не памыліўся. Ягоныя высновы ў аснове сваёй аналагічныя тым, якія рабіў і я ў артыкуле "Бляск сатырычнага слова" ("Крыніца", 1995, N 1-2), не ведаючы пра тое, што ўжо было напісана Ант. Адамовічам. Такія супадзенні высноў, зробленых рознымі аўтарамі незалежна адзін ад другога, сведчаць на карысць аб'ектыўнасці даследчыкаў.

Аднак у сваіх каментарыях да "Сказа" заакіянскі крытык усё ж зрабіў некалькі фактычных памылак. Яны зразумелыя, бо там, у эміграцыі, недастаткова ведалі канкрэтныя рэаліі лысагорскага жыцця і склад нашага пісьменніцкага саюза. Таму і тое, што гаворыцца ў паэме пра крытыка Фёдара Куляшова ("Куляшоў, мудрэц прафесар...") адносіцца на адрас Аркадзя Куляшова. Зяць генерала Аляксеева Кавалёў, які да літаратуры не меў дачынення, а пляц атрымаў у пісьменніцкім хаўрусе дзякуючы свайму цесцю, яшчэ і пісьменніку, зблытаны з паэтам Дзмітрыем Кавалёвым, пра якога ў паэме нічога не гаворыцца. Менавіта з Д. Кавалёвым звязаў Ант. Адамовіч і страфу: "Тады ўскіпеў паэт з народа: // "Мне срам, потомку кузнецов! // Какие ж это огороды, // Коль без готовых огурцов?" На самай справе тут гутарка ішла пра Б. Спрынчана, які, як сведчаць даведнікі, некалі працаваў майстрам кавальскага цэха, яшчэ з сярэдзіны 50-х гадоў пакінуў тую працу, але і да гэтай пары казырае сваёй "рабочасцю". Недакладна зразумеў каментатар і радкі пра Грышку-генія. Тут меўся на ўвазе не Рыгор Бярозкін (крытыкаў і самых выдатных у нас геніямі ніхто ніколі не лічыў), а Рыгор Барадулін, паэт, славуты сваёй таленавітасцю і ярышстасцю ўжо тады, калі пісаўся "Сказ".

З Адамовічавага каментарыя да "Роздуму" прыгадаю тлумачэнні крытыка, што *бог культуры* — гэта Ю. Міхневіч, тагачасны наш міністр культуры, *ідзе адзін*— З. Азгур ці А. Анікейчык, *галоўны* — Алег Саннікаў, *Ганна*— Ганна Грыншэйн, рэцэнзент тэатральнага рэпертуару, *Леаніда-камандзір*— Л. Ржэцкая, жонка Л. Рахленкі, Пятро, якога амаль што страцілі, — Пятро Прыходзька, Кастусь — Губарэвіч, шэф вядомы — Парватаў, Сам — П. М. Машэраў, Яўген — Глебаў, Вольскі — Артур, слова "шэйн", іранічна "зрыфмаванае" з прозвішчам тэатральнага рэжысёра Шэйна, у мове ідыш мае значэнне "хораша".

Адзначыў Ант. Адамовіч і тое, што паказаны ў паэме Палац мастацтваў у Мінску адкрыўся ў 1972 годзе. Значыць, "Роздум" напісаны не раней гэтага часу, відаць, неўзабаве пасля стварэння самага цэласнага тэксту "Сказа". Словам, пераймальнікі паявіліся даволі хутка.

**Дз. Б.**

**Уладзімір КОНАН:**

— Я даўно ведаю, хто аўтар паэмы "Сказ пра Лысую гару". Не таму, што аўтар мне спавядаўся. Я не святар, а нашыя паэты спавядаюцца ў літаратурнай творчасці. Ведаю на падставе простага аналізу паэтыкі гэтага твора "для сябе". А яшчэ інтуіцыя, памяць пра папярэднія і наступныя творы пісьменніка. Але раскрыць сваё імя мае права толькі сам аўтар, балазе, ён жыве і, дасць Бог, напіша яшчэ новыя творы такога ж высокага ўзроўню. Гадаць, тым больш называць аўтара ўпэўнена, раскрываць псеўданім — гэта калі не парушэнне аўтарскага права, то недапушчальна паводле няпісанай пісьменніцкай этыкі.

Здагадваюся таксама, чаму шаноўны аўтар усё яшчэ не раскрыўся, не надрукаваў "Лысую гару" ў зборы выбраных твораў. Хоць асцярожна абяцаў гэта зрабіць у гутарцы з рэдактарамі часопіса "Крыніца" (1995, N 1-2). У тым жа нумары "Крыніцы" па просьбе рэдакцыі я змясціў далікатны палемічны артыкул "Сатыра альбо гратэск?" У той (ды і ў ранейшых) публікацыях хацеў пераканаць маіх калегаў-літаратуразнаўцаў у відавочнай для мяне праўдзе: тая разнавіднасць камічнага, якая дамінуе ў паэме "Лысая гара" — не сатыра, як гэта паказалася тым часам, і, на жаль, шмат каму з літаратараў, а традыцыйны народны смех карнавальнага тыпу — гратэск. Мне пярэчылі, што ў творы ёсць таксама сатыра. Згодзен, ёсць сатыра, але толькі фрагментарна, і не ў "сэрцавіне" сюжэта, а на яго "перыферыі". А ў мастацтве сутнасць вызначаюць дамінанты і акцэнты. Галоўным чынам, у заключнай частцы "Замест эпілога", дзе ёсць крытыка мяшчанскіх ідэалаў і нацыянальнага, а разам і грамадзянскага здрадніцтва, масавага рэнегацтва.

Паўтаруся, але яшчэ раз скажу: камічная дамінанта "Сказа пра Лысую гару" — народны карнавальна-гратэскавы смех, амбівалентны смех, накіраваны не толькі на "іх", але і на сябе і "нас". Сцвярджальны смех не толькі над нізкім і камічным, але і над аднабока высокім, празмерна афіцыйным. Не пісьменніцкія дачы смешныя самыя па сабе, а рабства чалавека, адваротная сублімацыя, пераход духоўна высокага ў матэрыяльна нізкае.

І не пісьменнікі вінаватыя (у сваёй большасці) у такой камічнай, часам і трагікамічнай сітуацыі, а тое іхняе грамадства становішча, у якім літаратары апынуліся пры канцы XX стагоддзя. Над дачамі А. Чэхава, М. Горкага і бадай што нашага Максіма Танка не смяяліся. Дача пісьменніка — для натхнёнай творчасці, а не для таго, каб "сабіраць каравякі".

Калі наша літаратурная грамадскасць пераканаецца ў тым, пра што я неаднойчы казаў, зразумее карнавальна-гратэскавую прыроду "Сказа", то — я ўпэўнены — аўтар адкрыецца.

# Каб помнілі

## МЕМАРЫЯЛЬНЫ СПІС ПАМЁРШЫХ І ЗАГІНУЎШЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

*(Працяг. Пачатак у №№ 18, 19)*

**Ілары БАРАШКА**
Ілары (Іларыён Мацвеевіч) Барашка, беларускі пісьменнік.
Нарадзіўся 25 ліпеня 1905 года ў Мінску.
Памёр 3 ліпеня 1968 года.
Пахаваны (?).

**Марына БАРСТОК**
Марына (Марыя Мікітаўна) Барсток, беларускі літаратуразнавец.
Нарадзілася 15 красавіка 1916 года ў вёсцы Наркавічы Верхнядзвінскага раёна.
Памерла 30 мая 1994 года.
Пахавана на Паўночных могілках у Мінску.

**Васіль БАРЫСЕНКА**
Васіль Васільевіч Барысенка нарадзіўся 25 красавіка 1904 года ў Барысаве.
Беларускі літаратуразнавец і літаратурны крытык.
Памёр 26 ліпеня 1984 года.
Пахаваны на Маскоўскіх могілках у Мінску.

**Яўген БАРЫЧЭЎСКІ**
Яўген Іванавіч Барычэўскі, беларускі літаратуразнавец.
Нарадзіўся 17 снежня 1883 года ў Мінску.
Памёр 12 верасня 1934 года.
Пахаваны (?).

**Міхась БАРЭЙША**
Міхась (Міхаіл Уладзіміравіч) Барэйша, беларускі пісьменнік.
Нарадзіўся 4 студзеня 1950 года ў вёсцы Новы Лад Верхнядзвінскага раёна.
Памёр 13 жніўня 1990 года ў Наваполацку.
Пахаваны на радзіме ў вёсцы Новы Лад.

**Алесь БАЧЫЛА**
Алесь (Аляксандр Мікалаевіч) Бачыла, беларускі паэт.
Нарадзіўся 2 сакавіка 1918 года ў вёсцы Лешніца Пухавіцкага раёна.
Памёр 3 студзеня 1983 года.
Пахаваны на Маскоўскіх могілках у Мінску.

**Варлен БЕЧЫК**
Варлен Леанідавіч Бечык, беларускі літаратуразнавец і літаратурны крытык.
Нарадзіўся 25 чэрвеня 1939 года ў вёсцы Астрашыцкі Гарадок пад Мінскам.
Памёр 13 лістапада 1985 года.
Пахаваны ў вёсцы Прылукі Мінскага раёна.

**Захар БІРАЛА**
Захар Якаўлевіч Бірала, беларускі паэт.
Нарадзіўся 15 лютага 1906 года ў вёсцы Раўнаполле Пухавіцкага раёна.
Памёр 4 верасня 1993 года.
Пахаваны ў Мар'інай Горцы.

**Пятро БІТЭЛЬ**
Пятро (Пётр Іванавіч) Бітэль, беларускі паэт і перакладчык.
Нарадзіўся 19 чэрвеня 1912 года ў гарадскім пасёлку Радунь Воранаўскага раёна.
Памёр 18 кастрычніка 1991 года.
Пахаваны ў вёсцы Вішнева Валожынскага раёна.

**Сымон БЛАТУН**
Сымон Ціханавіч Блатун, беларускі паэт і перакладчык.
Нарадзіўся 10 мая 1937 года ў вёсцы Кавака Брагінскага раёна Гомельскай вобласці.
Памёр 3 красавіка 1970 года.
Пахаваны на Чыжоўскіх могілках у Мінску.

**Міхась БЛІСЦІНАЎ**
Міхась (Міхаіл Міхайлавіч) Блісцінаў, беларускі пісьменнік, кінакрытык, перакладчык.
Нарадзіўся 19 кастрычніка 1909 года ў вёсцы Іванкава Масальскага раёна Калужскай вобласці.
Памёр 24 снежня 1982 года.
Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках.

**Янка БОБРЫК**
Янка (Іван Іванавіч) Бобрык, беларускі паэт і празаік.
Нарадзіўся 21 ліпеня 1905 года ў мястэчку Глуск Магілёўскай вобласці.
Памёр 25 жніўня 1942 года ў блакадным Ленінградзе.
Пахаваны (?).

**Якаў БРАНШТЭЙН**
Якаў Анатольевіч Бранштэйн, яўрэйскі (на ідыш) і беларускі літаратуразнавец і літаратурны крытык.
Нарадзіўся 10 лістапада 1897 года ў горадзе Бельск-Падлянскім Гродзенскай губерні (цяпер Беластоцкае ваяводства, Польшча).
Расстраляны 29 кастрычніка 1937 года.
Пахаваны (?).

**Пятрусь БРОЎКА**
Пятрусь (Пётр Усцінавіч) Броўка, народны паэт Беларускай ССР.
Нарадзіўся 25 чэрвеня 1905 года ў вёсцы Пуцілкавічы Ушацкага раёна Віцебскай вобласці.
Памёр 24 сакавіка 1980 года.
Пахаваны на Маскоўскіх могілках у Мінску.

**Канстанцыя БУЙЛО**
Канстанцыя Буйло (Канстанцыя Антонаўна Калечыц), беларуская паэтэса і драматург. Заслужаны дзеяч культуры Беларускай ССР.
Нарадзілася 14 студзеня 1893 года ў горадзе Вільні.
Памерла 4 чэрвеня 1986 года ў Маскве, дзе крэміравана.
Прах пахаваны ў вёсцы Вішнева Валожынскага раёна Мінскай вобласці.

**Васіль БУРНОСАЎ**
Васіль Емяльянавіч Бурносаў, беларускі літаратурны крытык.
Нарадзіўся 18 жніўня 1914 года ў вёсцы Зеляньkова Круглянскага раёна Магілёўскай вобласці.
Памёр 19 ліпеня 1984 года.
Пахаваны на Паўночных могілках у Мінску.

**Лукаш БЭНДЭ**
Лукаш Апанасавіч Бэндэ, беларускі літаратуразнавец і літаратурны крытык.
Нарадзіўся 1 лістапада 1903 года ў вёсцы Шчакоцк Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці.
Памёр 23 снежня 1961 года.
Пахаваны (?).

**Ядвіга БЯГАНСКАЯ**
Ядвіга Іосіфаўна Бяганская, беларуская пісьменніца і перакладчыца.
Нарадзілася 29 лютага 1908 года ў горадзе Улан-Удэ (Бурацыя, Расія).
Памерла 3 красавіка 1992 года.
Пахавана на Паўночных могілках у Мінску.

**Змітрок БЯДУЛЯ**
Змітрок Бядуля (Самуіл Яфімавіч Плаўнік), беларускі паэт і празаік, перакладчык.
Нарадзіўся 23 красавіка 1886 года ў вёсцы Пасадзец Лагойскага раёна Мінскай вобласці.
Памёр 3 лістапада 1941 года каля горада Уральска.
Пахаваны (?).

**Антон БЯЛЕВІЧ**
Антон Пятровіч Бялевіч, беларускі паэт, празаік, перакладчык.
Нарадзіўся 27 мая 1914 года ў вёсцы Дуброўка Уздзенскага раёна Мінскай вобласці.
Памёр 11 красавіка 1978 года.
Пахаваны ў Мінску на Маскоўскіх могілках.

**Рыгор БЯРОЗКІН**
Рыгор Саламонавіч Бярозкін, беларускі літаратуразнавец і літаратурны крытык.
Нарадзіўся 3 ліпеня 1918 года ў горадзе Магілёве.
Памёр 1 снежня 1981 года.
Пахаваны на Маскоўскіх могілках у горадзе Мінску.

**Змітро БЯСПАЛЫ**
Змітро (Змітрый Аляксандравіч) Бяспалы, беларускі пісьменнік.
Нарадзіўся 28 жніўня 1934 года ў вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці.
Памёр 25 ліпеня 1999 года.
Пахаваны ў Мінску на Маскоўскіх могілках.

Склаў **Васіль ВІЛЬТОЎСКІ.**

*(Працяг будзе)*

**Рэдакцыя часопіса "Вясёлка" выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару Уладзіміру ЛІПСКАМУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці брата Мікалая.**

**Віцебскае абласное аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Давіду СІМАНОВІЧУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці жонкі Эмы Васільеўны.**

**Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выказвае шчырыя спачуванні спадарыні Марыі МАЦЮКЕВІЧ, старшыні Салігорскай раённай арганізацыі ТБМ з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора — заўчаснай трагічнай смерці сына.**

ВІНШУЕМ!

# Міколу ВЯРШЫНІНУ — 60

*Родам Мікалай Пятровіч з горада Чэрвеня. А паколькі яго бацькі загінулі ў самым пачатку вайны, ён зведаў нялёгкае маленства. Да 11-гадовага ўзросту выхоўваўся ў цёткі, затым тры гады правёў у дзіцячым доме. Скончыў Мінскі аўтамеханічны тэхнікум і гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, а таксама аддзяленне сацыялогіі факультэта партыйна-гаспадарчага актыву Універсітэта марксізму-ленінізму. Працаваў інжынерам Мінскага падшыпнікавага, старшым інжынерам трактарнага заводаў. Цяпер — вядучы інжынер навукова-вытворчага прадпрыемства "Прагрэс".*

*Пачатак літаратурнай працы М. Вяршыніна адносіцца да гадоў службы ў арміі. У асноўным выступае ў галіне сатыры і гумару. З'яўляецца аўтарам 11 кніг, яго творы прадстаўлены таксама ў 21 калектыўным зборніку. Шмат зрабіў па падтрымцы творчай моладзі. Кіраваў літаратурнымі аб'яднаннямі пры рэдакцыях розных газет.*

*Віншуем Мікалая Пятровіча з 60-годдзем! Зычым яму новых жыццёвых і творчых поспехаў, а чытачам "ЛіМа" прапануем новыя творы юбіляра.*

## Мікола ВЯРШЫНІН



### Як жывецца ў шэсцьдзесят

***Не жартуе век наш з намі,***
***І падзей мінае шмат.***
***Не сачыў я за гадамі,***
***А гляджу — ўжо шэсцьдзесят.***

***Захаваў свае абрысы,***
***Не схіляю галавы.***
***Не зусім яшчэ я лысы,***
***Не зусім яшчэ сівы.***

***Не сумую без прычыны,***
***Разганю сваю нуду.***
***Не абыдуць і жанчыны,***
***Сам я іх не абыду.***

***Не пайду ж ужо на танцы,***
***Што раней рабіў не раз.***
***Ну, а нейкім падшыванцам***
***Пакажу і ў танцах клас.***

***Працаваць гатоў з ахвотай,***
***Бо магу яшчэ трываць.***
***А як выганяць з работы,***
***Буду лепш адпачываць.***

***І ніякага начальства,***
***І навошта мне прыгон!***
***Не скачуся да гультайства,***
***Колькі год шчэ, колькі дзён!***

***Захачу — на дачу еду,***
***Захачу — ў лёс па грыбы,***
***І забудуся пра беды,***
***Працягнуць жыццё абы.***

***Лес нам не дзеля пацехі:***
***Прыглядайся пакрысе.***
***Будуць ягады, арэхі —***
***Пазбіраю іх я ўсе.***

***І куплю нарэшце вуду,***
***Накапаю чарвякоў.***
***І штодзень я з юшкай буду —***
***Самы лепшы з рыбакоў.***

***Гарт з'явіўся паляўнічы:***
***Трэба мне купіць і ствол.***
***І дзічыну буду ніштычыць,***
***Каб багаты быў мой стол...***

***Нехта іншы быў бы ў скрусе:***
***Мінавау жыцця парад.***
***Толькі я ўсё ж не журуся:***
***Жыць не сумна ў шэсцьдзесят.***

### Калючая ружа

***Я быў зачараваны дужа***
***Ў свае маладыя гады,***
***Найлепшаю кветкаю —***
***ружай***
***Здавалася ты мне тады.***

***І сам жа я быў не асотам,***
***Не, хлопец я быў — ого-го!***
***Сачыў за табою употай.***
***Мяне пакахай аднаго!***

***Табе ўрэшце кінуўся ў ногі,***
***А ты падала мне руку.***
***Усіх расштурхаўшы з дарогі,***
***Цябе я схапіў на скаку.***

***Жыццё закружыла віхурна.***
***Я ў госці — ты дома сядзіш.***
***Вось я паглядаю пахмурна,***
***Ты ж весела вельмі глядзіш.***

***Сяброў клічу поўную хату,***
***Сямейны трымаю свой руль.***
***— Рыхтуй, — кажу, —***
***стол нам багаты!***
***Ты з крыкам: — Шыбуйце адсюль!***

***Салёныя стравы люблю я,***
***Ты — горкія. Вось паварот!***
***І ўвогуле што ні раблю я,***
***Ты ўсё робіш наадварот.***

***Даводзіш мяне да калення,***
***І лаеш, як чорта, хоць плач!***
***А потым стаіш на каленях***
***І стогнеш: — Каханы, прабач!***

***Прылашчу цябе — ты ўцякаеш,***
***Злуюся — дык лашчышся ты.***
***Такая вось — і не такая,***
***Праз ложак наводжу масты.***

***Ніколі цябе й пакрыўджу,***
***Табою здаўна "хворы" я.***
***Кахаю цябе і ненавіджу,***
***Калючая ружа мая!***

### Ахвяра інтэлекту

***Як сустрэўся ён з дзяўчынай,***
***Дык яе зачараваў.***
***Сам трымаўся вельмі чынна,***
***Гаманіў, нібы спяваў.***

***Ну, адно змілаванне!***
***А разумнік — на ўвесь свет.***
***Слухала б яго да рання:***
***Мудры, як адвечны дзед.***

***Абяцаў усе выгоды:***
***Разам будзе любата —***
***І катэдж сярод прыроды,***
***І сабаку, і ката.***

***І дамогся ён даверу,***
***З ёй стварыў даўно сям'ю.***
***Ды... жыве ў яе кватэры,***
***І не дбае пра сваю.***

***Ні кватэры, ні сабакі,***
***Ні машыны, ні ката.***
***І зарплата ў небараку —***
***Самы мізэр, драбната!***

***Толькі ж голас меладычны,***
***Чуйна ловіш кожны гук.***
***Розум энцыклапедычны —***
***Акадэмія навук!***

***А вось цвік забіць у дошку,***
***Ці схадзіць у магазін —***
***Цяжка дыхае патрошку:***
***— У сям'і ж я — не адзін!***

***Бульбу чысціць для абеда,***
***Ці падлогу праціраць —***
***Клікаць ён гатоў суседа,***
***Нудна швабру ў рукі браць.***

***А што зробіць без ахвоты,***
***Дык такі кругаварот!***
***Жонцы новыя турботы —***
***Выйдзе ўсё наадварот.***

***Век з ім клапатаў багата.***
***Ды нядаўна — быццам зман!***
***У сям'і такое свята:***
***Выбіў першы раз дыван.***

***І сказала жонка з крэктам:***
***— Выйшла замуж я дарма.***
***Хто ахвяра інтэлекту?***
***І мой муж, і я сама.***

***Добра, што ён не бяздумны,***
***Ды ў сям'і — не божы дар.***
***Лепей быў бы менш разумны,***
***А — мужык***
***і гаспадар!***

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

### РАМПА

Аматары эксперыментальнага і альтэрнатыўнага мастацтва могуць наведаць мерапрыемствы міжнароднага артыстычнага фестывалю "Менская вясна", што праходзіць гэтымі днямі — з 18 па 20 траўня — у нашай сталіцы.

Удзельнікамі фестывалю, ідэя правядзення якога ўзнікла падчас творчага супрацоўніцтва артыстаў і грамадскіх арганізацый Познані і Мінска, з'яўляюцца польскія, беларускія і нямецкія тэатральныя трупы, музычныя гурты, мастакі, перформеры і тэатразнаўцы. Пабыць у атмасферы сучаснага еўрапейскага культурніцкага кантэксту можна на наступных акцыях "Менскай вясны":

***19 траўня, пятніца***

*14.00—16.00* — Акцыі польскіх і беларускіх перформераў (Мечыслаў Скаліноўскі, Лукаш Главацкі, Ягна Цюхта, Віктар Пятроў, Дзяніс Раманоўскі) — "Дзе-Я".

*17.00* — Спектакль "Тутэйшыя" Тэатра лялек з Гродна — "Дзе-Я".

*18.30* — Канцэрт нямецкага гурта "Gelee Royale" ("Пчолкіна малачко") — "Вольная сцэна".

*21.00* — Спектакль "Ёлка У" мінскага тэатра "Жэст" — ТЮГ.

***20 траўня, субота***

*12.00* — Спектакль "Лекцыя Ангельскай" тэатра "Акадэмія руху" (Польшча) і сустрэча з лідэрам тэатра, дырэктарам Цэнтра Сучаснага Мастацтва "Замак Уяздоўскі" Войцэхам Круноўскім — "Дзе-Я".

*17.00* — Спектакль "Cabaret Neopathetaque" польскага тэатра "Cogitatur" — "Дзе-Я".

*18.00* — Заключная прэс-канферэнцыя — "Дзе-Я".

*18.00* — Канцэрт гурта "Diffysion Ensemble" (Польшча, Нямеччына), Клауса дэр Гайгэра (Нямеччына), групы "Плато" (Беларусь) — Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі.

*19.00* — Канцэрт гуртоў "Уліс", "N.R.M.", "Pidzama Porno" (Польшча) — клуб "Рэактар".

### ЭКРАН

**Беларускае тэлебачанне**

***24 траўня, серада,***
*17.15* — у перадачы з нагоды Дня славянскага пісьменства "Старонкі старадаўняга летапісу" размова пойдзе пра аднайменную кнігу доктара гістарычных навук Мікалая Нікалаева.

***27 траўня, субота,***
*12.35* — "Кнігазбор" з такімі сюжэтамі: супрацоўніца Музея Вялікай айчыннай вайны Н. Яцкевіч раскажа пра беларускую мастацкую літаратуру і пра лёсы нашых пісьменнікаў у часы вайны, напрыклад, пра газету-плакат "Раздавім фашысцкую гадзіну" і паэтычны зборнік Анатоля Астрэйкі "Слуцкі пояс"; пра аўтабіяграфічную кнігу "Вясёлка над дарогай" народнага мастака Беларусі Віктара Грамыкі з самім аўтарам пагаворыць ягоны калега мастак Георгій Паплаўскі; кнігу Ніны Мацяш "Душою з небам гаварыць" з серыі "Беларуская проза і паэзія 20-га стагоддзя" выдавецтва "Мастацкая літаратура" прадставяць Г. Марчук і А. Вярцінскі.

***27 траўня, субота,***
*16.25* — "Арт-клуб" раскажа пра беларускіх ветэранаў сцэны і вайны.

***28 траўня, нядзеля,***
*15.35* — "Беларускі дом" віншуе з нядаўнімі юбілеямі Алеся Петрашкевіча, Уладзіміра Ліпскага, Зінаіду Дудзюк, Стэфанію Станюту; запрашае ў традыцыйнае гістарычнае тэлепадарожжа, на гэты раз у Вілейку; пазнаёміць з мінскім мастаком, пейзажыстам і манументалістам Уладзімірам Самсонавым і з жыхаром Верхнядзвінска Генадзем Канавалавым, уладальнікам унікальнай калекцыі раслін.

## У Доме літаратара

**22—24 мая.** Творчая вечарына паэта з Беластока Яна Чыквіна з нагоды яго 60-годдзя ў дні работы III Міжнароднага кангрэса беларусістаў.

**25 мая.** Адбудзецца творчая вечарына паэта, сатырыка-гумарыста Міколы Вяршыніна, прысвечаная яго 60-годдзю.

*Пачатак а 18 гадзіне.*

**29 мая.** Сумеснае пасяджэнне Ваенна-шэфскай камісіі і секцыі мастацкай публіцыстыкі і нарыса СБП. Абмеркаванне пытання выдання кнігі "Наша войска".

Свята, прысвечанае М. Багдановічу ў Ракуцёўшчыне. (Дата мерапрыемства будзе ўдакладнена пазней.)

*Пасяджэнне літаратурнага аб'яднання "Літаратар". Кожны панядзелак.*

*Пасяджэнне літаратурнага аб'яднання "Натхненне" ў Палацы ветэранаў. 2-гі і 4-ы аўторак месяца.*

## Беларускі калегіум

**ЗАПРАШАЕ**

**23 мая.** Лекцыя Эльжбеты Смулковай (Польшча) "Польска-беларуска-літоўскае моўнае памежжа. Мінулае і сучаснасць".

**30 мая.** Лекцыя Сяргея Леўшунова "Беларусь: сучасны стан і альтэрнатыўная стратэгія развіцця".

Лекцыі адбудуцца ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Я. Купалы (вул. В. Харужай, 16).

*Пачатак у 18.30*

## Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі

**АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС**

**на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага саставу: (для тых, хто мае мінскую прапіску)**

*кафедра беларускай музыкі*
прафесар — 1
*кафедра фізічнага выхавання*
дацэнт — 1

**Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання.**

*Заявы і дакументы накіроўваць на імя рэктара на адрас:*
*220030, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30.*
*Даведкі па тэлефонах: 227-49-42, 226-06-70.*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3318
Нумар падпісаны ў друк 18.05.2000 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 2501.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12